ЦАНА 50 К.



27 ТРАЎНЯ З'1990

# НАВІНЫ

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

## ГОМЛЯ: ЭКАНАМІЧНЫЯ САНКЦЫІ СУПРАЦЬ МАСКВЫ?

***12 траўня ў Гомлі адбылася канферэнцыя страйкавых камітэтаў горада, на якой быў утвораны агульнагарадзкі Гомельскі страйкавы камітэт. XX партыйная канферэнцыя "Гомсельмаша" запатрабавала адстаўкі Бюро ЦК КПБ. 15 траўня прадстаўнікі страйкавых камітэтаў Гомлі і Нароўлі прыбылі ў Менск да Дома ўраду і ўручылі дэпутатам свае патрабаваньні.***

Андрэй ТОЛЧЫН,
рэгуліроўшчык апаратуры Гомельскага радыёзаводу, сябра страйкаму, дэпутат гарсавету.

*(Па тэлефоне).*

Напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савету СССР, якая мусіла зацьвердзіць праграму "ліквідацыі" наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, страйкавыя камітэты, утвораныя на некаторых гомельскіх прадпрыемствах, далучыліся да патрабаваньняў забастоўшчыкаў "Гомсельмаша" і накіравалі адпаведныя дакументы ў саюзны парламент, а таксама – прэзідэнту Міхаілу Гарбачову асабіста. Патрабаваньні ўяўляюць сабой цэлы комплекс радыкальных захадаў, зьвернутых на вырашэньне чарнобыльскай праблемы, таму лічу патрэбным назваць некаторыя зь іх:

**– зацьвердзіць беларускую Дзяржаўную праграму пераадоленьня наступстваў аварыі на ЧАЭС;**

**– прыняць рашэньне пра закрыцьцё ў 1990 годзе Чарнобыльскай станцыі;**

**– прызнаць горад Гомель і Гомельскую вобласьць зонай бедства. Забясьпечыць жыхарам тэрыторыяў з забруджаньнем ад 1 Кюры на км кв. і вышэй па цэзію ільготы як для пастаянных жыхароў тэрыторяў з адкрытымі крыніцамі радыяцыйнага апрамяненьня:**

**– забараніць усялякую сельскагаспадарчую дзейнасьць на тэрыторыях, дзе немагчыма атрымаць чыстыя прадукты харчаваньня (паводле нормаў Сусьветнай Арганізацыі Аховы Здароўя);**

**– забясьпечыць жыхароў тэрыторыяў з забруджаньнем 1 Кюры на км кв. і вышэй чыстымі прадуктамі харчаваньня са 100-працэнтным кантролем, афармленьнем сертыфікату, па дзяржаўных цэнах і ў дастатковым асартыменце;**

**– усталяваць прыборы радыяцыйнага кантролю харчовых прадуктаў ва ўсіх прадуктовых крамах горада да 1 ліпеня 1990 г.;**

**– пачынаючы з 1990 г. забясьпечыць штогадовы адпачынак цяжарным жанчынам, дзецям з бацькамі ў летні перыяд у экалагічна чыстых раёнах. Стварыць умовы аздараўленьня людзей на працягу ўсяго года;**

**– стварыць у Вярхоўным Савеце СССР парламенцкую камісію па расьледаваньні канкрэтнай віны службовых асобаў, якія дазволілі цяганіну, утойваньне праўды, дэзінфармацыю і бязьдзейнасьць у ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і ўчынілі тым самым злачынства супраць беларускага народу. Выказваем недавер ураду Рэспублікі, ЦК КПБ і 3-му ўпраўленьню Міністэрства аховы здароўя;**

**(Працяг на стар. 3)**

# БУНТАРСКІ ГОРАД

Фота Уладзімера Панады.



**Станіслаў ШУШКЕВІЧ і Зянон ПАЗЬНЯК – безумоўныя лідэры дэмакратычнай дэпутацкай фракцыі ў новым Вярхоўным Савеце. Але першы яе называе ня фракцыяй, а плынью і спадзяецца на добрую волю й розум большасьці дэпутатаў. Другі – толькі на сябе, вялікую ідэю незалежнасьці і народ. У гэтым яны разыходзяцца прынцыпова. Для таго, каб адлюстраваць абодва пункты погляду, намі быў абраны рэдкі і хутчэй тэлевізійны жанр – контрвію.**

# „ГІСТОРЫЯ МЯНЕ АПРАЎДАЕ"?..

**"Навіны": Паняцьце "перабудова" дарэшты размытае. Нават гад антыперабудоўчымі сіламі цяпер кожны разумее сваё. Скарыстаемся метафарай "далучэньне да чалавецтва". Хто і што стаіць зараз на гэтым шляху для Беларусі?**

**С.Шушкевіч:** Гэтая метафара мае сваю логіку. Чалавецтва сапраўды дасягнула таго, пра што мы можам толькі марыць. Хаця я лічу, што і тэрмін "перабудова" нядрэнны. Вядома, існуе шмат анекдотаў, што няма чаго перабудоўваць. Так, Беларусь даўно ня мела сваёй палітыкі і сваіх палітыкаў. Мы заўсёды на некага глядзелі, накага слухаліся і паўтаралі кепскія ўзоры. Напэўна, нам і сапраўды няма чаго перабудоўваць. Мы маем цяпер кіраўнікоў, якіх, бадай, і немагчыма перабудаваць. Патрэбная новая жывая плынь і новыя людзі. На гэтым шляху стаіць апарат, які валодае ўладай і ня хоча нічога, апрача касьметычных мераў.

Але ня толькі таму нам будзе цяжка далучацца да чалавецтва. Мы ня ведаем і не ўсьведамляем таго, што адбываецца ў цывілізаваным сьвеце. У гэтым сэнсе ўсе мы – ахвяры савецкай прапаганды, якая ўсхваляла перавагу нашай сістэмы над усімі астатнімі. Па-ранейшаму многія з нас пераканалыя, што жывуць лепш за іншых. Гэтая недасьведчанасьць людзей сёньня робіцца галоўнай перашкодай.

**З.Пазьняк:** Перабудова па-рознаму асэнсоўваецца рознымі пластамі грамадзтва. Сам Гарбачоў разумее яе як мадэрнізацыю існай сістэмы і ўмацаваньне ўнітарнай дзяржавы. Дэмакратычныя сілы ж выступаюць за вяртаньне да здаровага сэнсу і вечных чалавечых каштоўнасьцяў, зьнішчаных камунізмам: да незалежнасьці, нацыянальных традыцыяў, гуманізму, маралі, нармальных эканамічных законаў і прыватнай уласнасьці. Я выходжу з таго, што савецкая сістэма знаходзіцца ня ў крызісе, які можна пераадолець, а ў тупіку, зь якога ў цывілізацыю можна вярнуцца адным шляхам – назад.

Мы не асэнсоўваем сябе культурнай нацыяй. Адсутнасьць нацыянальнай сьвядомасьці й гістарычнай памяці не дазваляе нашаму народу вылучыцца як індывідуальнасьці. Адсюль палітычная пасіўнасьць і нездольнасьць прэтэндаваць на актыўную ролю ў гістарычным працэсе.

**"Навіны": Што сёньня ўяўляе сабой дэмакратычная фракцыя?**

**С.Шушкевіч:** Перш за ўсё я не называў бы гэта фракцыяй. Гэта ініцыятыўная група дэпутатаў, якія, дарэчы, прытрымліваюцца досыць розных поглядаў. Але за гэты час зробленая вельмі вялікая работа. Праведзены папярэдні шырокі абмен думкамі па ўсіх пытаньнях, што дазволіць не губляць час на сесіі. Знойдзеныя агульныя кірункі работы і нават некаторыя рашэньні, якія б задаволілі людзей розных поглядаў. У выніку цяперашняя сесія мусіць выглядаць нашмат больш кваліфікавана. Апрача таго, была выпрацаваная платформа. Некаторыя дэпутаты выказалі думку, што на падставе гэтай платформы можа быць зроблены яшчэ адзін дакумент, да якога далучыцца большасьць дэпутатаў.

**З.Пазьняк:** Ёсьць элементарныя законы палітычнай барацьбы. Фракцыя ня можа ўтварыцца на аснове групы дэпутатаў, якія ня маюць за сваімі плячыма ніякай рэальнай палітычнай структуры. Калі фракцыя знаходзіцца ў меншасьці, яе перспэктыва толькі ў тым, каб мець падтрымку моцнай палітычнай арганізацыі.

Дэмакратычная фракцыя БНФ вельмі невялікая – платформу падпісала толькі 22 чалавекі. Яна склала грунт дэпутацкага руху "Дэмакратычная плынь". 14 мая напярэдадні сесіі на аснове "Дэмакратычнай плыні" быў створаны "Дэмакратычны дэпутацкі клуб", задача якога – згуртаваць дэмакратычных дэпутатаў па шырокіх і найбольш агульных пытаньнях, каб эфектыўна ўзаемадзейнічаць на сесіі. Група БНФ прыняла адпаведную тактыку, якая пакуль сябе апраўдвае. Пры пасьляховай працы колькасьць дэмакратычна настроеных дэпутатаў у Вярхоўным Савеце можа праз нейкі час дасягнуць паловы. Але, бадай, ня болей. Асноўныя цяжкасьці ў невысокім палітычным узроўні дэпутатаў. Некаторыя зь іх, апынуўшыся тут, трохі разгубіліся. Відаць, яны падтрымлівалі выбарчую Платформу "Галасуй за Беларусь!" на словах, абы прайсьці. Людзі, як кажуць, са сваімі слабасьцямі.

**"Навіны": Якой глыбіні палітычны кампраміс можа дазволіць сабе апазіцыя ў цяперашняй сітуацыі?**

**З.Пазьняк:** Таго, хто ідзе зараз на супрацоўніцтва з апаратам, асабліва на грунце нейкіх суб'ектыўных стасункаў, чакае глыбокае расчараваньне. Я ведаю багата людзей, якія ў 1970-я гады шмат энергіі аддавалі хаджэньням у інстанцыі, перамовам з рознымі начальнікамі (той добры, у таго някепскі характар) і ўрэшце дамагаліся нейкай драбноты. Згубіўшы шмат здароўя і часу. Гэта і называецца палітычны ідэалізм. Зараз мы павінны весьці гаворку не пра драбноту, а пра дзяржаўныя задачы: пра ўладу, якую апарат зрабіў сваёй прыватнай уласнасьцю. Нават у праблеме Чарнобыля мы хутчэй за ўсё ня знойдзем зь імі агульнай мовы, бо паўстане пытаньне аб адказнасьці за хлусьню. Яшчэ паўгода таму яны забаранялі "Чарнобыльскі Шлях", запрашалі аркестры на "Гадзіну маўчаньня", судзілі. І зараз праводзяць шоў на стадыёне, даюць кругом аб'явы, а тут жа судзяць Юрыя Хадыку за "Чарнобыльскі Шлях". У апарату маралі няма. Справа тут у сістэме, якая жыве сваімі аб'ектыўнымі законамі. Які б добры ні быў чалавек, у сістэме ён будзе ісьці, як кот па жэрдачцы.

**С.Шушкевіч:** Мы з вамі па-рознаму ставімся да апарату. Там нямала кепскіх людзей, але многа і станоўчых, зь якімі можна працаваць дзеля народу. Яны ставяць перад сабой такія ж мэты, які і БНФ, прабачце. У вас ёсьць тэорыя, канцэпцыя і г.д. А яны проста хочуць зрабіць лепей, але часам ня ведаюць як. Да таго ж, у структуры дэмакратычнага цэнтралізму яны падпарадкоўваюцца верхнім пластам апарату, дзе ў нас, на жаль, малавата шляхетнасьці, тактоўнасьці ды й розуму.

**"Навіны": У гэтай сувязі трошкі астралагічнае пытаньне. Праўленьне Яфрэма Сакалова ня можа быць вечным, рана ці позна яно скончыцца. Гэта будзе мірная пенсія, адстаўка пад націскам грамадзкага руху, загад з Масквы, інтрыга тутэйшага ЦК?**

**С.Шушкевіч:** За ўвесь час свайго праўленьня гэты кіраўнік не прыняў ніводнага рашэньня, якое можна было б назваць мудрым. Ягонае імя асацыюецца зь вельмі непапулярнай палітыкай. Толькі сёньня мы загаварылі пра дапамогу ахвярам Чарнобыля на ўзроўні ўраду і на ўзроўні ААН. Усе папярэднія гады рэспубліканскае кіраўніцтва выступала толькі ў якасьці суцішальнікаў. Сакалоў робіць усё, каб захаваць на першым месцы, падбіраючы ў сваё акружэньне яшчэ больш непапулярных асоб, чым ён сам. Мяркую, такое становішча можа працягвацца толькі да бліжэйшага зьезду КПБ. У мяне нават не ўзьнікае думкі, што ён можа быць абраны паўторна.

**З.Пазьняк:** Праўленьне гэтай асобы характарызуецца ня толькі нягнуткасьцю і кансерватызмам у цэлым у Рэспубліцы, але і ў межах уласнай партыі. Красамоўны прыклад – стаўленьне да "Дэмакратычнай платформы". Палітыка Сакалова вядзе да канчатковай самаізаляцыі КПБ. Інакш яны ня ўмеюць: ісьці адной лініяй, душыць і ўпарта стаяць на сваім. Тут магчымасьцяў для нейкай талеранцыі я ня бачу. Апрача таго, адсутнасьць мудрых рашэньняў – гэта сіла, а ня слабасьць Сакалова. Такі ён выгадны Маскве. Як салдат, ён выканае любы загад і любы намёк. Апарат існуе па сваіх ірацыянальных законах – там ня дзейнічае фактар інтэлектуальнага адбору.

Кансерватыўная палітыка прывядзе да хуткага росту народнай незадаволенасьці. У такой сітуацыі дэмакратычнай фракцыі неабходна наладзіць жывы кантакт з выбаршчыкамі, з прадпрыемствамі, з "вуліцай". Трэба арганізоўваць паралельныя структуры, камітэты, пашыраць грамадзкі ўплыў праз дэпутатаў мясцовых саветаў. З часам адпаведныя формы грамадзкага націску будуць знойдзеныя, і тады апарату ў сьпешным парадку давядзецца рабіць нейкія перастаноўкі і адпраўляць свайго лідэра ў адстаўку. Гэта найбольш верагодны варыянт.

**"Навіны": Якія, на вашую думку, перспэктывы ў сацыялізму і марксізму-ленінізму – наогул, і на Беларусі ў прыватнасьці?**

**З.Пазьняк:** Гэта страшная хвароба чалавецтва, якая грунтуецца на ўтапічных поглядах і антынавуковых канцэпцыях. Гісторыя даказала нежыцьцёвасьць гэтай ідэалогіі і практыкі. У Еўропе сітуацыя з камунізмам ужо ясная. Там, дзе культура заснаваная на самакаштоўнасьці чалавека і народу, сацыялізм ня мае ніякай перспэктывы. У азіяцкай сістэме ментальнасьці, калі адбываецца нівеліроўка асобы, сацыялізм як таталітарная сістэма (гэта аб'ектыўна вынікае з адмаўленьня прыватнай уласнасьці, рынку, таварнай вытворчасьці і г.д.) мае большыя магчымасьці для існаваньня. Тут вам і Карэя, і Віетнам, і Кітай, і Куба. Што датычыцца Беларусі, дык пытаньне краху камунізму ў нас – гэта пытаньне часу. Але бяз гэтага краху ні пра якую незалежнасьць, ні пра які гуманізм і дэмакратыю ня можа быць і гаворкі. Цывілізацыя проста загіне.



**С.Шушкевіч:** Я разглядаю марксізм як частку грамадзкіх навук, філасофіі наогул. Ленінізм – гэта разьвіцьцё марксізму. Але прабачце, чаму мы ўсё павінны рабіць па тым тэарэтычным грунце, канчатковая распрацоўка якога завершаная 70 год назад (у пазьнейшы час ішло толькі падпарадкаваньне тэорыі наяўным рэжымам). Зараз наш камунізм фігуруе ў анекдотах і жартах. Маўляў, спачатку трэба было паспрабаваць на сабаках. Але я ня ўпэўнены, што таталітарызм і адсутнасьць прыватнай уласнасьці – абавязковыя крытэры сацыялізму. Гэта толькі наша трактоўка. Мяркую, што можа быць і іншая. Заўважце, што перабудова адразу дакляравала перавагу агульначалавечых каштоўнасьцяў над класавымі. Карацей, мы павінны ўлічваць гэтае вучэньне, але абапірацца толькі на яго нельга і ня трэба.

**"Навіны": Ці павінная Беларусь свае надзеі на перамены і свой далейшы лёс ставіць у залежнасьць ад Масквы, або прыйшоў час шукаць свой шлях?**

**З.Пазьняк:** Час шукаць свой незалежны шлях прыйшоў даўно. І ён быў знойдзены яшчэ 71 год таму. Але ў 1918 годзе аддзеламі Чырвонай арміі Беларусь была акупаваная, а ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) быў вымушаны эміграваць. Беларусі так і не ўдалося выйсьці зь імпэрскай геапалітычнай сфэры. Бальшавіцкая імпэрыя стала сапраўдным спадкаемцам імпэрыі Раманавых. Цяперашні стан нацыянальнай катастрофы толькі ілюструе, што ў імпэрыі мы заўсёды зьяўляліся і зьяўляемся аб'ектам асаблівай палітыкі. Каланіяльная эканамічная палітыка 19 ст., зьнішчэньне вуніі, забарона мовы і самой назвы Беларусь маюць генэтычную сувязь са страшным генацыдам 1920–40-х гадоў і палітыкай дэнацыяналізацыі ў галіне культуры. Пакуль нашае грамадзтва не ўсьвядоміць, што адзінае выйсьце – гэта дзяржаўны суверэнітэт Беларусі і незалежнасьць ад СССР, да таго часу над народам будзе стаяць прывід сьмерці.

Да такога кроку падводзіць нашая вялікая бяда – Чарнобыльская катастрофа. Яна паставіла пытаньне незалежнасьці як пытаньне сацыяльнае. Прыняцьце саюзнай праграмы ў такім выглядзе і апошнія 6 месяцаў усёй гэтай цяганіны ў Вярхоўным Савеце СССР засьведчылі поўную абыякавасьць Масквы да лёсу беларускага народа. Кожны год мы выплочваем, так бы мовіць, кантрыбуцыю ў 6 мільярдаў рублёў, значную частку нашага нацыянальнага даходу. Каб гэты даход пасьля Чарнобыля заставаўся ў Рэспубліцы, яна б даўно мела тыя 18 мільярдаў на ліквідацыю.

Вялікай сілай зьяўляецца сама ідэя. Справядлівую ідэю людзі зразумеюць і падтрымаюць. Калі ж мы будзем выходзіць толькі з таго, што ў нас нешта слабавата, і маўчаць, мы ніколі ня станем незалежныя.

**С.Шушкевіч:** Безумоўна, нам трэба выпрацоўваць сваю палітыку. Калі мы будзем толькі падпарадкоўвацца Маскве і рабіць тое, што загадаюць, мы будзем жыць так, як жылі, і лепей жыць ня будзем. Усё, што знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі, павінна належаць народу, які тут жыве. Трэба забясьпечыць сапраўдны суверэнітэт рэспубліканскай заканадаўчай і выканаўчай улады. Але я прыхільнік больш лагоднага падыходу: частку функцыяў (ахова межаў, абарона, некаторыя пытаньні дзяржаўнай бясьпекі) сёньня зручней перадаць цэнтру. Што перадаць, павінен вырашыць народ.

Ёсьць такія моманты ў палітыцы, калі неабходна ўстрымацца з абнародаваньнем некаторых палажэньняў. Хачу прывесьці прыклад з кнігі Фідэля Кастра "Гісторыя мяне апраўдае" (няважна, што зараз нельга толькі добрым чынам ставіцца да гэтай асобы). У кнізе супастаўляюцца пытаньні стратэгіі і тактыкі. Як кубінскім камуністам удалося навязаць сваёй каталіцкай краіне сацыялістычны лад? Гэта ж была амаль немагчымая задача! Зь меркаваньняў тактыкі яны не выстаўлялі такіх лозунгаў, пакуль не здабылі сабе падтрымкі большасьці народу. Гэтак і ў нашым грамадзтве. Сацыяльныя сілы, якія падтрымліваюць ідэю незалежнасьці, таксама павінны складаць або большасьць, або хаця б наблізіцца да паловы. Сёньня палова нашага народу сьвядома на такі шлях ня пойдзе.

Шлях Беларусі да сапраўднай дзяржаўнасьці па-за межамі СССР можа пралягаць толькі праз пераходны перыяд. Вялікую ідэю трэба мець, але спачатку неабходна падрыхтаваць сьвядомасьць людзей, зрабіць хоць нейкія крокі ў кірунку сапраўднай федэрацыі і канфедэрацыі. Такія крокі, на маю думку, сёньня можа падтрымаць большасьць дэпутатаў. Трэба дэмакратызаваць абставіны, у якіх мы жывем, прыняць законы аб партыях, аб грамадзянстве, аб уласнасьці, аб зямлі, аб сацыяльнай абароненасьці. Гэта прымальна для пераходнага перыяду і таксама можа быць падтрымана большасьцю. У парламенце будзе дзейнічаць дэмакратычная фракцыя, якая безумоўна паўплывае на сьвядомасьць многіх дэпутатаў. Зрэшты, я не выключаю, што магу быць у гэтым пытаньні ідэалістам, бо прыйшоў у палітыку толькі год таму.

**З.Пазьняк:** Гэтыя разважаньні настолькі блізкія па форме да пазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і настолькі розныя па сутнасьці, што мушу ўдакладніць. Мы разглядаем пераходны перыяд толькі як сродак дасягненьня незалежнасьці. Зрэшты, абставіны могуць скласьціся так, што такога перыяду можа і ня быць. У любым выпадку мэту трэба акрэсьліць адразу, каб не пладзіць у народа шкодныя ілюзіі аб "сапраўднай федэрацыі" і да т.п. Яшчэ адно пакаленьне з такімі ілюзіямі – і мы, беларусы, зьнікнем як народ з твару зямлі.

Запісаў Алесь СУША.

● ● ●

**Ад рэдакцыі: Марна прагназаваць, ці атрымаецца з гісторыі адвакат. А вось судзьдзя будзе няўмольны. Ды што будзе, – ёсьць! 16 траўня, на другі дзень работы, сесія Вярхоўнага Савету БССР забалатавала прапанову ўключыць у парадак дня пытаньне аб рэгістрацыі БНФ. А яшчэ праз два дні апарат зрабіў сваю першую і адзіную саступку – пост "1-га намесьніка Дзямянцея" удалося заняць Станіславу Шушкевічу. І тое – найперш дзякуючы націску той жа "вуліцы".**

Фота Кастуся Войткі.

## БУНТАРСКІ ГОРАД

(Працяг са стар. 1)

**– пераглядзець 4-ы пункт Пастановы ЦК КПБ, Савета Міністраў БССР і Белсаўпрафу пра ход выкананьня дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі наступстваў аварыі за кошт гомельскіх прадпрыемстваў. Распрацаваць праграму нарошчваньня аб'ёмаў жыльлёвага будаўніцтва за кошт перапрафіляваньня будаўніцтва прамысловага. Спыніць усялякае будаўніцтва ў зонах адсяленьня;**

**– забясьпечыць кожную сям'ю ў забруджаных раёнах індывідуальнымі дазіметрамі на працягу 1990 г.;**

**– забясьпечыць кожную сям'ю ў забруджаных раёнах індывідуальнымі дазіметрамі на працягу 1990 г.;**

**– на рахунак № 904 вярнуць 65 мільёнаў рублёў, перададзеных Міністэрству атамнай энергетыкі;**

**– адкрыць у Гомлі дыягнастычныя цэнтры для рэгулярнага поўнага абсьледаваньня здароўя людзей;**

**– улічваючы складанае становішча ў пацярпелых раёнах, неабходнасьць дадатковых выплатаў, вызваліць працоўныя калектывы ад падаткаабкладаньня фондаў аплаты працы;**

**– усе выдаткі, зьвязаныя з выкананьнем гэтых патрабаваньняў, рабіць за кошт дзяржаўнага бюджэту. Паменшыць на 50 працэнтаў адлічэньні ў дзяржбюджэт і ў міністэрствы з прадпрыемстваў Гомлі і вобласьці;**

**– ураду прадугледзець прыярытэтнае матэрыяльна-тэхнічнае забесьпячэньне прадпрыемстваў пацярпелых раёнаў;**

**– пры недахопе сродкаў для рэалізацыі праграмы ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС патрабуем зьвярнуцца ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў, да сусьветнай грамадзкасьці па дапамогу.**

У канцы гэтай петыцыі мы папярэджвалі Вярхоўны Савет, што ў выпадку непрыняцьця пералічаных патрабаваньняў сесіяй, гомельскія прадпрыемствы будуць страйкаваць 26 красавіка.

Як вядома, парламент СССР не прыслухаўся да меркаваньня працоўных Гомлі, прыняўшы сваю, "35-бэрную", куртатую праграму. Гэта яшчэ раз пацьвердзіла, што Чарнобыль ёсьць натуральны вынік антычалавечай сістэмы.

26 красавіка звыш 40 тысяч гамяльчанаў ня выйшлі на працу. "Гомсельмаш" і завод імя Кірава працягвалі страйк увесь дзень, на іншых прадпрыемствах горада адбыліся папераджальныя кароткатэрміновыя страйкі і мітынгі.

Рабочыя ўрэшце адчулі, што толькі такім чынам можна зьвярнуць увагу дзяржаўных і партыйных чыноўнікаў на патрабаваньні народу. Аднак толькі страйкамі іх ужо,мусіць, не прымусіш дбаць пра народныя інтарэсы, ды й цярпяць ад страйкаў у першую чаргу самі працоўныя. Бязьдзейнічаць, ведама, таксама нельга: мы чатыры гады чакалі, што пра нас паклапоціцца дзяржава, – марна чакалі. Дык патрэбна схіліць яе да таго.

Зараз у гарадзкім Каардынацыйным цэнтры страйкавых камітэтаў нарадзілася ідэя – спыніць усялякія пастаўкі тавараў, што вырабляюцца на гомельскіх заводах ды фабрыках, у цэнтар, Саюзу. Калі ў адказ Масква прыме свае эканамічныя санкцыі супраць Гомлі, у нас будзе выйсьце – пашырэньне эканамічных сувязяў зь Літвой.

Як на справе ажыцьцявіць гэтую ідэю, мы яшчэ ня вызначыліся. Ды і разумеем, што яна – толькі частковая мера. Выйсьце ж – аддзяленьне ад СССР. У Гомлі такія настроі ўсё больш пашыраюцца. Многія нарэшце пачынаюць разумець: толькі незалежнасьць уратуе Беларусь. Становішча сапраўды катастрафічнае. Зараз па ўсёй рэспубліцы назіраецца працэс вырoўніваньня колькасці радыянуклідаў у арганізмах людзей. Гэта значыць, што пад пытаньнем генафонд нацыі. Калі мы ўжо махнулі рукой на сябе, варта падумаць пра будучыню дзяцей і ўнукаў нашых, пра будучыню Беларусі.






# ШТО МОЖА „ВУЛІЦА"?

Звычайна пад час сесіі на плошчы перад Домам ураду бесперапынна знаходзілася некалькі сотняў пікетчыкаў. Людзі слухалі радыёпрыёмнікі, разважалі, абменьваліся думкамі. Лозунгі "Што вы адкажаце народу пасьля сесіі, дэпутаты?" і "Няўжо Дзямянцей? Не!" чаргаваліся з г. зв. экстрэмісцкімі: "Няхай жыве КПСС на Чарнобыльскай АЭС!" Пікетчыкі зьбіралі подпісы пад рознымі зваротамі, распаўсюджвалі "малы друк". З плакатамі "Патрабуем адсяленьня!" стаялі прадстаўнікі прычарнобыльскіх раёнаў. У акуратных гарнітурчыках і зь відэакамерамі працавалі нястомныя "людзі з органаў". Пад вечар на плошчы зьбіралася да тысячы і болей чалавек . . .

Але найбольш сабралося 17 траўня. Прыблізна пяцітысячны натоўп напружана чакаў вынікаў выбараў Старшыні Вярхоўнага Савету. І вось узмацняльнікі перадаюць голас старшыні падліковай камісіі М.Скарыніна: "Старшынёй выбраны Мікалай Дзямянцей". Разьюшаныя людзі разрываюць ланцугі міліцыянтаў і кідаюцца да Дому ўраду, але там іх спыняюць "ОМОНаўскія" дубінкі. Націск адбіты.

Бадай, гэты інцыдэнт ані не паўплываў на логіку разважаньняў старога-новага Старшыні. Літаральна на наступны дзень Дзямянцей прапанаваў на пасаду свайго 1-га намесьніка апаратнага работніка І.Машко. Найбольш пераканаўча запярэчыў гэтаму дэпутат Глушкоў: "Я не хачу больш выходзіць з гэтага будынку так, як выходзіў учора. Я не хачу зьяжджаць адсюль на аўтобусе. Я не хачу рабіць так, як робяць некаторыя кіраўнічыя работнікі, якія адседжваюцца ў гэтым будынку".

Тым часам на пляцы зьбіраецца народ. Сям-там зноў запальваюцца вогнішчы з партыйных і камсамольскіх білетаў. Людзі скандуюць: "Шушкевіча!"

Пасьля другой па ліку кансультацыі (а дэпутаты ж пэўна бачылі, што ўвесь гэты час дзеелася на вуліцы) М.Дзямянцей заявіў, што з чатырох прэтэндэнтаў застаўся адзіны – С.Шушкевіч. Ён і быў выбраны абсалютнай большасьцю. Як дыпламатычна выказаўся потым дэпутат Грыбанаў: "Я вельмі задаволены, што партыйнае кіраўніцтва ўсё ж прыслухалася да голасу рэальнасьці і розуму".

Вітаўт СУРАЖСКІ.

Фота Кастуся Войткі і Уладзімера Панады.



29 траўня, пасьля канікулярнага перапынку, сесія зноў распачне работу. У гэты дзень Управа БНФ заклікае на плошчу перад Домам ураду а 17.00.



# БЛАКАДА

Юры БЕЛЕНЬКІ,
Уладзімер ЗАБЛОЦКІ,
народныя дэпутаты БССР.

Прэзідэнцкае праўленьне . . . Падзел маёмасьці . . . Эканамічныя санкцыі. . . Блакада . . . У наш штодзённы ўжытак увайшлі словы і паняцьці, якія на працягу дзесяцігодзьдзяў выкарыстоўваліся толькі ў дачыненьні да краінаў капіталістычнага сьвету. Зараз гэтыя паняцьці характарызуюць падзеі ў самой Савецкай імперыі.

У сувязі з Дэкларацыяй аб аднаўленьні незалежнасьці Літоўскай рэспублікі, прынятай 11 сакавіка 1990 года дэмакратычна выбраным яе Вярхоўным Саветам, прэзідэнт Гарбачоў і ўрад СССР абвясьцілі эканамічную блакаду Літвы. У надзвычай напружаным рытме новы парламент гэтай рэспублікі выпрацаваў пакет законаў, разьлічаных на функцыянаваньне ва ўмовах незалежнасьці. Паралельна ў Маскве прайшоў 3-і нечарговы Зьезд народных дэпутатаў СССР, на якім літаральна ў пажарным парадку было ўведзенае прэзідэнцкае праўленьне і выбраны прэзідэнт СССР, якога надзялілі надзвычайнымі паўнамоцтвамі. Гэтыя падзеі маюць самую шчыльную сувязь.

Пытаньне пра афармленьне дзяржаўнай незалежнасьці Літвы насьпела ўжо пасьля 2-га Зьезду народных дэпутатаў СССР. Пад час студзеньскага візіту М.Гарбачова ў Літоўскую рэспубліку яно ўздымалася таксама, але акцэнты былі ссунутыя ў бок аддзяленьня КПЛ ад КПСС. Такім чынам, рэальнасьць была сьвядома праігнараваная. Больш таго, менавіта прэцэдэнт выхаду са складу СССР паспрыяў тэрміноваму ўвядзеньню інстытута прэзідэнцкага праўленьня, асноўная мэта якога – заблакаваць цэнтрабежныя тэндэнцыі. Але закон, як вядома, зваротнай сілы ня мае. Зь юрыдычнага пункту погляду, рашэньне Вярхоўнага Савету Літвы было прынятае да ўстанаўленьня прэзідэнцтва і ня можа быць скасаванае апошнім. З гэтай жа прычыны літоўцаў не датычыцца і Закон пра выхад са складу СССР, які многімі народнымі дэпутатамі ацэнены, як "закон пра нявыхад".

Дык усё ж ці мае Літва права на аддзяленьне ў адпаведнасьці зь цяперашняй Канстытуцыяй? Вернемся на 1-ы Зьезд народных дэпутатаў СССР. Шэраг дэпутатаў, у прыватнасьці Андрэй Сахараў, прапаноўвалі ўключыць у парадак дня пытаньні дзяржаўнай будовы Саюза ССР, а таксама новай Канстытуцыі СССР. Аднак гэтыя прапановы не былі пачутыя, што і паглыбіла працэс распаду імперыі, прывяло да чалавечых ахвяраў. Закон пра падзел паўнамоцтваў паміж цэнтрам і рэспублікамі быў прыняты толькі нядаўна, без абмеркаваньня на "месцах". Такім чынам, выраз "суверэнная саюзная сацыялістычная дзяржава" – ня больш, чым гульня словаў, не падмацаваная рэальным зьместам. Такім чынам, выразныя цэнтрабежныя тэндэнцыі выкліканыя аб'ектыўным становішчам у СССР – адсутнасьцю новага саюзнага дагавору, з аднаго боку, і эклектычнай эканамічнай палітыкай Крамля, якая прывяла да развалу гаспадаркі краіны, з другога. У выніку рэспублікі канчаткова страцілі надзею на распрацоўку і прыняцьце пасьлядоўнай эканамічнай праграмы без ідэалагічных нароставў. Зьявілася ўпэўненасьць, што поўная незалежнасьць дапаможа хутчэй і лепей падвысіць узровень жыцьця. Рашэньне Зьезду народных дэпутатаў падтрымаць прапанову ўраду СССР пра фактычны перанос радыкальнай эканамічнай рэформы на 1993 год яшчэ павялічыла незалежніцкія памкненьні.

Што ж датычыцца канстытуцыйнага права на выхад, дык да 11 сакавіка 1990 года Літва, як і кожная саюзная рэспубліка, якая зьяўляецца ў адпаведнасьці з арт. 76 Канстытуцыі СССР, суверэннай савецкай сацыялістычнай дзяржавай, мела права свабоднага выхаду з СССР (арт. 72). Такім чынам, згодна з Канстытуцыяй СССР Літва мела права на абвяшчэньне незалежнасьці ў аднабаковым парадку. Акрамя Канстытуцыі, іншага закону не было. Пытаньні ж эканамічных прэтэнзіяў павінны былі б вырашацца ў рабочым парадку. Прычым літоўскае кіраўніцтва адразу заявіла пра сваю гатоўнасьць да гэтага. Бо як цэнтар мае права на ўласнасьць на тэрыторыі Літвы, гэтак і Літва па-за сваімі межамі мае права на ўласнасьць на тэрыторыі СССР ў адпаведнасьці зь яе укладам у валавы нацыянальны прадукт усёй краіны, уключаючы адпаведную долю залатога запасу СССР.

Асобна стаіць пытаньне, ці павінна Літва браць на сябе частку зьнешняй пазыкі СССР. Пытаньне складанае. Але тут варта зьвярнуць увагу на тое, што саюзныя рэспублікі ня ўдзельнічалі ў прыняцьці рашэньняў пра злачынную вайну ў Афганістане і падтрымку сумнеўных рэжымаў у краінах трэцяга сьвету. Усе гэтыя авантуры каштуюць сотні мільярдаў у валюце. Відавочна, разьлічвацца за гэта павінны тыя, хто прымаў і прымае гэтыя рашэньні зараз, а зусім не Літва і ня тыя, хто пойдзе сьледам за ёй.

На жаль, кіраўніцтва СССР ня выказала памкненьняў паразумецца. Спрацаваў стэрэатып імперскай традыцыі. Крэмль палічыў за лепшае "не пушчать", не разумеючы, што, скінуўшы старыя умовы, рэспублікі абавязкова аб'яднаюцца ў нейкі варыянт саюзу (федэрацыю, канфедэрацыю ябо судружнасьць) і дабрахвотна перададуць у кампетэнцыю нейкай цэнтральнай улады пэўныя функцыі. Такі шлях прадыктуюць эканамічныя рэаліі, а новы саюз стане сапраўды вольнай супольнасьцю незалежных дзяржаваў. Але, як паказала разьвіцьцё падзеяў, нават дзеля станоўчай перспектывы Масква ня можа паступіцца ўладай.

У выніку спрацаваў унітарна-дзяржаўны забарончы прынцып у выглядзе ўльтыматуму, а пазьней – загад пра эканамічную і транспартную блакаду.

Эканамічная блакада Літвы, абвешчаная прэзідэнтам Гарбачовым, процiпраўная, антыгуманная і ня можа быць апраўданая ніякімі меркаваньнямі. Можна ўявіць, што, ідучы на гэты крок, Гарбачоў разьлічваў, што Літва не пратрымаецца больш за два тыдні. У рэспубліцы пачнуцца беспарадкі, беспрацоўе, дэфіцыт тавараў першай неабходнасьці, і народ пазбавіць даверу свой Вярхоўны Савет. Другі варыянт – што беспарадкі дадуць падставу ўвесьці рэжым прэзідэнцкага праўленьня на тэрыторыі Літоўскай рэспублікі і распусьціць усе выбраныя заканадаўчыя і выканаўчыя органы. Аднак народы Літвы не апраўдалі спадзяваньняў Масквы і не зьбіраюцца адмаўляцца ад незалежнасьці. І калі для эканомікі іншых рэспублікаў адзін-два тыдні спыненых дачыненьняў з прадпрыемствамі Літвы ня вельмі адчувальныя, дык большы тэрмін разарваных сувязяў надзвычай істотна паўплывае на іхнюю гаспадарчую дзейнасьць.

Усё гэта найбольш негатыўна адаб'ецца на Беларусі, бо ў адпаведнасьці з савецкім традыцыйным планаваньнем Літва зьяўляецца адзіным пастаўшчыком даволі значнага сьпісу тавараў, камплектавальных, паўфабрыкатаў і г.д. Іншы пастаўшчык не прадугледжаны. Гэта пагражае рэзкім ростам аб'ёму незавершанай прадукцыі.

Агульная колькасьць гаспадарчых сувязяў паміж нашымі дзьвюма рэспублікамі перавышае некалькі сотняў. Зь літоўскай вытворчасьцю зьвязаныя прадпрыемствы Менска, Жодзіна, Гомлі, Гародні, Ліды, Барысава, Наваполацка, Полацка, Віцебска, Скідзеля, Магілева, Салігорска, Маладэчна, Мазыра, Лунінца, Берасьця ды іншых, уключаючы прадпрыемствы аграпраму. Сувязі, натуральна, адна- і двухбаковыя і закранаюць як прадпрыемствы рэспубліканскага, гэтак і саюзнага падпарадкаваньня. Разрыў іх па загадзе Масквы прывядзе да таго, што ня толькі Літва, але і Беларусь апынецца ў эканамічнай блакадзе. А Крэмль, які прыняў гэтае рашэньне, не панясе ніякай адказнасьці, бо пытаньне кампенсацыі з боку цэнтру нават не ўздымалася. Словы пра тое, што перапыненыя пастаўкі, напрыклад, Мажэйкскага заводу, будуць кампенсаваныя іншымі вытворцамі, аказаліся блефам. У Латвіі з-за гэтага ўжо адмовілі ў паліве ўладальнікам прыватных аўтамабіляў. Тое ж самае датычыцца і Беларусі. Масква ня будзе пакрываць страты, якія панясе наша Рэспубліка ў выніку блакады Літвы, і не захоча бачыць таго, што нашыя выдаткі павялічаны Чарнобылем, як ня бачыла гэта 4 гады пасьля трагедыі.

Пералічым хаця б некаторыя вынікі нашага ўдзелу ў блакадзе Літвы. Панявежскае аб'яднаньне "Аўрыда", зь якім зьвязаны менскі завод "Ударнік", зьяўляецца адзіным у СССР пастаўшчыком кампрэсараў. Ягоныя вырабы ідуць на БелАЗ і МАЗ. Гэтыя прадпрыемствы абавязкова спыняцца, бо без кампрэсара ніводзін аўтамабіль не скранецца зь месца. У гэтым выпадку практычна гатовая тэхніка пяройдзе ў графу незавершанай вытворчасьці, спыніцца паступленьне грошай на рахункі заводаў, ня стане чым заплаціць за сыравіну, камплектацыю і выплаціць заробак. Застанецца адзінае выйсьце – прасіць кароткатэрміновыя крэдыты ў банках. Але ж крэдытных рэсурсаў у СССР не хапае. Увавім, што усё ж будуць знойдзеныя сродкі для крэдытнага фінансаваньня, але і гэта не ўратуе ад стратаў, якія нясе ў сабе замаруджаньне абарачэньня.

Ад абструкцыянісцкай палітыкі Масквы, напрыклад, менскі завод "Ударнік" ужо зараз нясе страты, бо разьлікі з Балтыйскімі краінамі з сакавіка гэтага года вядуцца праз Маскву, у сувязі з чым тэрмін руху дакументаў павялічыўся ў 4–6 разоў. Адпаведна вырасла пазыка банкам па кароткатэрміновых крэдытах і працэнты па іх. Завод папросту губляе частку прыбытку. Цяпер "Ударнік" пастаўлены перад перспектывай банкруцтва.

Істотна і тое, што, акрамя працэнтаў за крэдыты, прадпрыемствы, якія маюць сувязі зь Літвой, будуць плаціць яшчэ і лішнія грошы за фонды, бо ў сярэдні кошт абаротных сродкаў уваходзіць кош незавершанай прадукцыі. Узьнікае цікавая сітуацыя. Большасьць буйных і сярэдніх прадпрыемстваў маюць саюзнае падпарадкаваньне і таму плацяць за фонды ў саюзны бюджэт, а працэнты за банкаўскі крэдыт, за выключэньнем камерцыйнага, ідуць у банкі СССР. Такім чынам, цэнтар узбагаціцца за наш кошт, а дзесяткі ці нават і сотні прадпрыемстваў зачыняцца.

Аналагічнае становішча і на НВА "Атлант", якое вырабляе халадзільнікі, Беларускім навукова-вытворчым аб'яднаньні вылічальнай тэхнікі і многіх іншых. Толькі за год страты БелНВА вылічальнай тэхнікі складуць больш за 1 мільярд рублёў. Так што гэтая блакада фактычна і супраць Беларусі.

Зараз Літва ў надзвычай цяжкім становішчы. У пошуках выйсьця яна прапануе на экспарт свае тавары, нават тыя, у якіх сама мае патрэбу. Сярод іх ёсьць вельмі неабходныя Беларусі: цэмент, цэгла, шыбы, тканіны, трыкатаж, адзеньне, абутак, складаная пабытовая тэхніка і інш. Беларусь магла б забясьпечыць частку сваіх патрабаваньняў, абменьваючы сыравіну на дэфіцытныя вырабы. Мы маглі б таксама прыняць прапанову Літоўскай рэспублікі пра пастаўку чыстага харчаваньня ў забруджаныя радыяцыяй раёны, пра будаўніцтва жыльля для перасяленцаў, пра адпачынак на літоўскіх курортах дзяцей з Чарнобыльскай зоны.

На наш погляд, прадпрыемствы Беларусі павінны і надалей падтрымліваць двухбаковыя сувязі зь Літвой, а Беларуская чыгунка і аўтатранспарт – неабходныя перавозкі. Апошняе слова павінна быць за самімі працаўнікамі, менавіта людзі могуць вырашыць пытаньне блакады.




Сваё слова павінен сказаць і нанова выбраны Вярхоўны Савет Беларусі. Ягоная пазіцыя па гэтай праблеме выявіць і ягоную сутнасьць.

Трэба памятаць, што падтрымка незалежніцкіх памкненьняў Літвы – гэта гарантыя і нашай будучай свабоды.

Малюнак Алены Зуевай.

# ЛІТВА - БЕЛАРУСЬ - УКРАІНА: ПАЛІТЫЧНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

26 красавіка ў Менску адбылася трохбаковая рабочая нарада паміж БНФ, "Саюдзісам" і ўкраінскім "Рухам". У ёй прынялі таксама ўдзел дэпутаты Вярхоўных Саветаў Беларусі, Літвы і Украіны. Нарада сабралася з прапановы БНФ дзеля абмеркаваньня ідэі палітычнай садружнасьці заходніх рэспублік ад Балтыкі да Чорнага мора ў перыяд распаду імперыі КПСС.

Рэальнай незалежнасьці будзе цяжка дасягнуць намаганьнямі адной рэспублікі і адной толькі Балтыі. Для гэтага неабходная палітычная асацыяцыя маладых незалежных краінаў. Агульныя інтарэсы й ключавое геапалітычнае становішча дазволілі б стварыць паўнацэнны ўласны рынак, здольны супрацьстаяць імперскай блакадзе. Палітычным грунтам асацыяцыі магла б стаць судружнасьць краінаў, разьмешчаных на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, альбо судружнасьць ад Балтыйскага да Чорнага мора (Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна).

Абмяркоўвалася становішча ў рэспубліках. Вялікія зьмены ў палітычных настроях адбыліся за апошнія паўтара месяцы на Украіне. Абвяшчэньне незалежнасьці Літвы выклікала бурны грамадзкі ўздым і рух салідарнасьці па ўсёй Рэспубліцы, асабліва на Львоўшчыне. Цяпер уся дэмакратычная Украіна жыве ідэяй незалежнасьці і прадчуваньнем хуткага вызваленьня ад імперскіх путаў.

Чуткі аб глыбокіх супярэчнасьцях і нават варожасьці паміж Заходняй і Усходняй Украінай беспадстаўныя. Супярэчнасьцяў няма. Ёсьць розьніца ў палітычных узроўнях і ў шырыні грамадзкага ўплыву нацыянальных сілаў. "Рух" афіцыйна зарэгістраваны, мае свае памяшканьні, службы, адміністрацыю, рахункі. Блакітна-жоўтыя сьцягі лунаюць безь перашкодаў.

У час выбараў Руская Праваслаўная Царква на Украіне (ад нядаўняга часу Украінская Праваслаўная Царква) адкрыта хаўрусавалася з партапаратам. Камуністы не хавалі сваёй падтрымкі кандыдатам РПЦ–УПЦ, а праваслаўная адміністрацыя – кандыдатам наменклатуры.

Украінскі народ падтрымліваюць Украінская Грэка–Каталіцкая (Вуніяцкая) і Праваслаўная аўтакефальная цэрквы. Пытаньня з украінскімі рыма–каталікамі ("касьцельнымі палякамі") на Украіне практычна не існуе.

Літва зараз жыве клопатам аб пераадоленьні эканамічнай ізаляцыі, перад фактамі якой рэспубліку паставіў СССР. Перакрытыя нафта– і газаправоды. Арганізаваная транспартная блакада, што не дазваляе атрымліваць грузы, нават адпраўленыя па пастаўках. Неўзабаве чакаецца закрыцьцё шмат якіх прадпрыемстваў і беспрацоўе. Паліва ёсьць толькі на сяўбу. На збор ураджаю паліва ўжо ня хопіць.

Акупацыйнае войска і "начная КПСС", падтрыманыя Масквой, усяляк імкнуцца справакаваць інцыдэнты, але беспасьпяхова. Наогул у Вільні і ў Літве спакойна, толькі транспарту на вуліцах стала меней, ад чаго прыкметна пасьвяжэла паветра.

У Літве створаны блакадны камітэт, які, акрамя распрацоўкі шляхоў выхаду са становішча, будзе зьбіраць сродкі на выжываньне ў блакадзе. Прытым неабходныя наяўныя, "жывыя" грошы, а не міфічныя пералічэньні, якія нельга пракантраляваць і тым больш скарыстаць.

"Саюдзіс" пасьля зьезду 21–22.04.90 застаўся на ранейшых пазіцыях. Ідэя ператварэньня яго ва ўрадавую партыю не прайшла.

Пад час нарады прагучала падрабязная інфармацыя пра палітычнае становішча на Беларусі. Быў падкрэсьлены крайні кансерватызм, рэакцыйнасьць і антынароднасьць беларускага аддзяленьня КПСС, асабліва яго кіраўніцтва, раскрытыя прычыны гэтай рэакцыйнасьці і антыдэмакратызму, якія крыюцца перш за ўсё ў ідэалогіі нацыянальнага нігілізму мясцовых камуністаў.

Разглядаліся вынікі выбараў у Вярхоўны і мясцовыя саветы БССР, былі прааналізаваны прычыны грамадзка–палітычнай нясьпеласьці насельніцтва і рэліктавага характару застойных апаратных структураў.

Галоўнымі тэмамі перамоваў сталі Чарнобыльская трагедыя Беларусі ды Украіны, эканамічная блакада Літвы. На падставе фактаў было высьветлена, што блакада Літвы стане адначасна і блакадай Беларусі, бо паміж нашымі рэспублікамі існуюць вельмі шырокія эканамічныя сувязі. Масква хоча блакаваць Літву беларускімі рукамі і тым самым за кошт беларусаў весьці сваю імперскую палітыку. Спыненьне паставак з боку БССР выклікае непастаўку з прадпрыемстваў Літвы. Такім чынам, гаспадарчыя страты і частковае беспрацоўе ў выніку такой палітыкі СССР напаткаюць і Беларусь. Дадамо, Чарнобыльскую Беларусь.

Удзельнікі нарады адзначылі неабходнасьць звароту непасрэдна да прадпрыемстваў і калектываў з прапановай ні ў якім разе не спыняць пастаўкі, у тым ліку нафты і газу. Транспартная разблакіроўка Літвы – салідарны абавязак нашых працаўнікоў перад беларускім і літоўскім насельніцтвам.

Былі разгледжаныя магчымасьці натуральных узаемнавыгодных абменаў. Літва валодае велізарным вытворчым аб'яднаньнем "Акмянцэмент" (якое выпускае больш цэменту, чым Фінляндыя і Швецыя разам), мае наладжаную вытворчасьць цэглы, дахоўкі ды іншых будаўнічых матар'ялаў, якіх нестае на Беларусі. Будаўнічыя матар'ялы, так патрэбныя беларусам і ўкраінцам для будаўніцтва жытла перасяленцам з чарнобыльскай зоны, можна было б абменьваць на паліва ды іншыя энергетычныя тавары.

Словам, магчымасьці выйсьця з блакады ў Літвы і Беларусі ёсьць. Справа за нашай салідарнасьцю, за ўзаемаразуменьнем нашых гаспадарнікаў, за хутчэйшым усьведамленьнем таго, што толькі суверэнітэт нашых краінаў, толькі незалежная ад СССР дзяржаўнасьць выратуе нас ад Чарнобыля і ад блакады.

Удзельнікі нарады пагадзіліся, што ідэя палітычнай судружнасьці заходніх рэспублік актуальная і гістарычна абумоўленая, аднак вымагае далейшых перамоваў і, галоўнае, разьвіцьця прамых палітычных, эканамічных і культурных кантактаў паміж нашымі ўсходнееўрапейскімі народамі.

Народныя рухі Украіны, Беларусі і Літвы станоўча ставяцца да разьвіцьця дэмакратычных працэсаў у Расіі, да асэнсаваньня расейскай інтэлігенцыяй асобнага, незалежнага ад СССР шляху расейскага гаспадарства, да пераадоленьня ў расейскім грамадзтве імперскіх і бальшавіцкіх комплексаў, унітарных сіндромаў.

Пасьля заканчэньня перамоваў быў падпісаны сумесны пратакол. Увечары дэлегацыі Украіны і Літвы прысутнічалі на грамадзкім маленьні на пляцы Волі з нагоды 4-й гадавіны Чарнобыльскай трагедыі.

**Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ.**

### ПРАТАКОЛ
### рабочай сустрэчы прадстаўнікоў народных рухаў Украіны, Беларусі і Літвы

26 красавіка 1990 г. у Менску адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў народных рухаў Украіны ("Рух"), Беларусі (БНФ "Адраджэньне") і Літвы ("Саюдзіс"). У сустрэчы ўзялі ўдзел дэпутаты Вярхоўных Саветаў УССР, БССР і Літоўскай рэспублікі. Абмяркоўваліся пытаньні палітычнага становішча на Украіне, на Беларусі і ў Літве, пытаньні, зьвязаныя з эканамічнай блакадай Літвы і будучай сустрэчай у Кіеве (5–6 траўня) прадстаўнікоў дэмакратычных сіл.

Асноўная ўвага надавалася праблемам, зьвязаным з Чарнобыльскай катастрофай і яе наступствамі. Удзельнікі сустрэчы дамовіліся аб'яднаць намаганьні ў рашэньні экалагічных, эканамічных і гуманітарных пытаньняў, народжаных Чарнобылем. Было падкрэсьлена, што эканамічная блакада, якая праводзіцца па рашэньні Прэзідэнцкага Савету і ўраду СССР, ускладняе эканамічную сітуацыю ў суседніх рэспубліках, што непазьбежна адаб'ецца на эфектыўнасьці выкананьня дзяржаўных праграмаў пераадоленьня наступстваў Чарнобыльскай трагедыі. Была дасягнута дамоўленасьць, што для абароны жыцьцёвых інтарэсаў пацярпелых ад аварыі грамадзянаў Украіны і Беларусі неабходна выпрацаваць канкрэтныя сумесныя меры.

Вырашана рэгулярна праводзіць падобныя рабочыя сустрэчы.

**За Народны рух Украіны за перабудову ("Рух")**
**Сэргій ГОЛОВАТЫЙ.**

**За Літоўскі рух "Саюдзіс"**
**Віргіліюс ЧАПАЙЦІС.**

**За Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне"**
**Зянон ПАЗЬНЯК.**

# ЗА НАШУ І ВАШУ СВАБОДУ

## ВІЛЕНСКІЯ БЕЛАРУСЫ ПРА ЛЁС НЕЗАЛЕЖНАЙ ЛІТВЫ



*Паводле статыстыкі, у 1917 годзе ў Віленскай губерні налічвалася 1.076.435 беларусаў (больш было толькі ў Менскай ды Магілёўскай). Залатымі літарамі ўпісаныя ў гісторыю Вільні імёны такіх дзеячоў навукі і культуры, нацыянальна-вызваленчага руху, як Францішак Скарына, Сымон Будны, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч, Максім Багдановіч, Янка Купала, Антон Луцкевіч, Рыгор Шырма, Адам Станкевіч, Браніслаў Тарашкевіч...*

*Не сакрэт, што падчас польскага ўладаньня Вільняй (1920–39 г.) беларусы зьведалі тут прымусовае акаталічаваньне, а значыць, і апалячваньне. "Ты польскай веры – ты паляк".*

*У 1940 годзе, калі ў літоўцаў адабралі дзяржаўную незалежнасьць, даўшы ўзамен Віленскі край, працэс асіміляцыі беларусаў набыў іншую афарбоўку. Настаў перыяд сапраўднага заняпаду беларускай культуры на Віленшчыне. У выніку даваенных і пасьляваенных рэпрэсіяў тутэйшыя беларусы засталіся без сваёй інтэлігенцыі. Ня маючы магчымасьці наведваць родную школу, вось ужо трэцяе пакаленьне беларусаў Віленшчыны атрымоўвае адукацыю на расейскай, польскай ці літоўскай мовах. Паводле апошняга перапісу, зараз у Літве жыве 60.000 беларусаў "пашпартных", зь іх у самой Вільні – 36.000. Аднак ня ўсе яны пачалі называць сябе рускімі ці літоўцамі, ня ўсе адмовіліся ад сваёй беларускасьці.*

*Вось ужо другі год дзейнічаюць у Вільні ўтвораныя на хвалі нацыянальнага адраджэньня Таварыства Беларускай Культуры ды клуб аматараў беларускай народнай творчасьці "Сябрына".*

*Як жа ставяцца беларускія суполкі ў Вільні да выхаду Літвы са складу СССР і далейшага лёсу Віленскага краю? Пра гэта наш карэспандэнт Алесь Ганковіч гутарыць з Валянцінам СТЭХАМ, старшынём клуба "Сябрына".*

**– Валянцін, як "Сябрына" паставілася да аддзяленьня Літвы?**

– Хачу адразу папярэдзіць, што я не магу казаць ад імя ўсіх сяброў нашага клуба, аднак лічу, што выказваю погляд пераважнай большасьці зь іх. Мы вітаем аднаўленьне дзяржаўнай самастойнасьці Літвы.

**– Ці значыць гэта, што ўсе вы, не вагаючыся, прымеце грамадзянства Літвы?**

– Тут зямля нашых продкаў. І мы не зьбіраемся нікуды адсюль зьяжджаць.

**– Зараз у цэнтральнай прэсе час ад часу зьяўляюцца жахлівыя паведамленьні пра тое, як літоўцы выжываюць з рэспублікі людзей іншых нацыянальнасьцяў. Ці адчуваеце вы нейкі ўціск ці прыгнёт у сваёй дзейнасьці?**

– Не. Шчыра кажучы, мы ня можам паскардзіцца на адсутнасьць добрай волі ці нежаданьне пайсьці нам насустрач з боку ўладаў горада, грамадзкасьці рэспублікі. Ды і пра "экстрамістаў" мы ведаем толькі дзякуючы саюзнай прэсе.

**– Як вы ставіцеся да ўльтыматыўнай заявы Прэзідыума Вярхоўнага Савету БССР адносна Віленскага краю?**

Нам не патрэбны "еўрапейскі Карабах", а толькі да гэтага вядзе падобная пастаноўка пытаньня. Чамусьці Вярхоўны Савет БССР не ўзгадаў пра смаленскія і чарнігаўскія землі, пра Беласточчыну, якія таксама зьяўляюцца гістарычна беларускімі. Тым больш, што адчуваецца нешта аперэтачнае у гэтай заяве. Успомнілі раптам пра беларускую Віленшчыну. Маўляў, аддавайце нам наша, а не – дык за намі 280 мільёнаў . . . І прыкра ад таго, што беларускія ўлады – зноў бы марыянеткі ў руках Масквы. Горш за ўсё, што ад гэтага найбольш церпіць аўтарытэт нашага народу.

**– Аднак гэта ня значыць, што праблемы не існуе. На вашу думку, мо' выйсьцем было б абвяшчэньне Віленшчыны своеасаблівай зонай, спрыяльнай для разьвіцьця беларускай культуры?**

– У персьпектыве я і бачу стварэньне ў краі беларускіх школаў, кнігарняў, газэтаў, г. зн. перадусім – культурнае адраджэньне віленскіх беларусаў, безь якога немагчымы і посьпех нацыянальнага.

●●●

*Якая ж сітуацыя склалася ў Літве ў выніку блакады зараз? Каб мець адказ на гэтае пытаньне, наш карэспандэнт Алесь Ліпай 8 траўня затэлефанаваў у Вільню Хведару НЮНЬКУ, старшыні Беларускага Культурнага Таварыства. Вось што той распавёў:*

Увогуле эканамічная блакада Літвы за яе межамі ўяўляецца, мусіць, куды страшнейшая, чым ёсьць на справе. Але становішча прадбачыцца цяжкае, улічваючы, што нейкага вырашэньня канфлікту з Масквой не знаходзіцца.

Ніякіх перабояў у забесьпячэньні насельніцтва электраэнергіяй ці газам пакуль няма, аднак некаторыя прадпрыемствы ўжо спыняюцца, бо бракуе энергіі ды сыравіны. Іхнія дырэкцыі шукаюць магчымасьць заняць людзей працай. У Літве адкрыты рахунак дзеля дапамогі тым, хто трапляе ў складанае матар'яльнае становішча, на яго пералічана ўжо каля 10 мільёнаў рублёў.

Стала горш з прадуктамі, хаця цэны на іх застаюцца ранейшыя. Усе прадукты прадаюцца па талёнах. Цяжка з бензінам, АЗС выдаюць на месяц па 30 літраў на асабісты аўтамабіль, што дзеля летняга сезону, пагадзіцеся, замала. Камерцыйная цана на паліва падскочыла шматразова, на чым, дарэчы, грэюць рукі некаторыя камбінатары зь Беларусі. Складана і з прамысловымі таварамі. Рублі абясцэньваюцца, людзі імкнуцца пазбавіцца іх у прадчуваньні пераходу на літы і скупляюць у крамах усё, хоць чаго-небудзь вартае.

Але агульны настрой усё ж – нацыянальна-патрыятычны. Літоўскі народ ні ў якім разе не адступіць. Ён мае мэту і дасягне яе. Разумею гэта – і аж да слёз балюча, што адраджэнскія працэсы на Беларусі ідуць марудна, а народ не скансалідаваны. Але мы, віленскія беларусы, спадзяемся, што і нашая Бацькаўшчына пойдзе шляхам незалежнасьці.

*Што ж, у сваю чаргу "Навіны" зычаць Літве выстаяць, давесьці да перамогі распачатую справу. Бо параза – крыж і на іхняй, і на нашай волі.*

**24–25 сакавіка ў Менску адбылася рэспубліканская канферэнцыя прыхільнікаў ”Дэмакратычнай платформы ў КПСС”. Яе ўдзельнікі выказалі свой пункт погляду на становішча ў Рэспубліцы і КПБ. Канферэнцыя прыняла дэкларацыю, у якой, у прыватнасьці, заяўлена пра стварэньне ў рамках КПСС рэспубліканскага руху ”Дэмакратычная платформа”, мэта якога – пeратварыць КПБ у сапраўды дэмакратычную партыю парламенцкага тыпу, якая дзейнічае ва ўмовах шматпартыйнасьці. Партыйны друк адказаў на гэтую падзею чарговым прапагандысцкім залпам.**

**На пытаньні ”Навінаў” адказвае адзін зь лідэраў ”Дэмакратычнай платформы”, народны дэпутат БССР, загадчык аддзела ВА ”Інтэграл” Сяргей ПАПКОЎ.**

# РАСКОЛЬНІКІ



Малюнак Алены Зуевай.

**”Навіны”: Чаму Вы выбралі менавіта беларускі варыянт ”Дэмакратычнай платформы ў КПСС”, а не шэрагі Беларускага Народнага Фронту?**

**Сяргей Папкоў:** Каротка я адказаў бы так. Наш рух народжаны тымі ж працэсамі, якія нарадзілі і Беларускі Народны Фронт. Толькі ўжо не ў маштабах цэлага грамадзтва, а ў самой партыі.

Як чалавек, прафесійна зьвязаны з кібернетыкай і прывучаны да сістэмнага падыходу, я гляджу на працэсы, якія адбываюцца на Беларусі, трохі інакш, чым гэта бачыцца з шэрагаў БНФ. Лічу, што неабходна аналізаваць усе ўзроўні грамадзтва: якое кіраўніцтва, якая партыя, якія самі людзі і г.д. БНФ – адзін са зьнешніх чыньнікаў у дачыненьні да партыі.А гэтага недастаткова. Сёньня КПБ ўяўляе сабой жорсткую і маналітную структуру, якой супрацьстаіць мяккая структура БНФ. Народны Фронт у варунках такога супрацьстаяньня аб'ектыўна мусіць цэментаваць свае шэрагі і сам паступова ператварацца ў жорсткую структуру. Такое супрацьстаяньне непазьбежна прывядзе да грамадзкага катаклізму. Значыць, павінен існаваць яшчэ і ўнутраны чыньнік у сярэдзіне самой КПБ.

**”Навіны”: Вы маеце на ўвазе, што на Беларусі няма амартызатару, нейкага палітычнага цэнтру?**

**С.П.:** Дэмакратычная платформа” не зьбіраецца займаць цэнтрысцкую пазіцыю. Ідзе гаворка пра ”разьмякчэньне” маналітнай структуры, якая, адчуваючы небясьпеку з боку перабудовы, пачала ўмацоўвацца яшчэ больш і тым самым стварыла рэальную пагрозу ўсяму грамадзтву. І ня трэба атаясамліваць наш рух з апаратнымі гульнямі ”Дэмакратычнай згоды”. Зь сёньняшнім ЦК КПБ немагчымыя перамовы. Як можна сесьці за круглы стол з узурпатарамі?

**”Навіны”: Які сацыяльны грунт ”Дэмакратычнай платформы”, колькі прыхільнікаў яна цяпер аб'ядноўвае?**

**С.П.:** Рух узьнік у Менску на аб'яднаньнях ”Гарызонт”, ”Інтэграл”, ”Планар”, у КБДЭМ. У Менску, а я магу гаварыць толькі пра Менск, нашыя ідэі падтрымлівае галоўным чынам тэхнічная інтэлігенцыя. Па зьвестках мандатнай камісіі, у канферэнцыі ўдзельнічаў 201 дэлегат (з усіх абласцей Рэспублікі). Паводле пратаколаў яны прадстаўлялі 4317 камуністаў. Але агульная колькасьць прыхільнікаў, мяркую, значна большая.

**”Навіны”: Якое месца ў руху займаюць ідэі нацыянальнага адраджэньня Беларусі?**

**С.П.:** Нацыянальная ідэя ў нашым асяродзьдзі пакуль што сьпіць. І тут няма ніякага прынцыпу. Проста далёка ня ўсе людзі Беларусі ўсьведамляюць, што гэта неабходна. Гэта вельмі балючая праблема, зьвязаная з унутраным становішчам асобы. Чалавек можа добра ведаць,як і што трэба рабіць, але робіць усё наадварот, бо веды не зьяўляюцца ягонай істотай, носяць вонкавы, ”таблічны” характар. Так і ў нас на Беларусі. Інфармацыя пра мову, гісторыю, культуру, здаецца, дайшла да людзей, але ў выглядзе ”таблічных” ведаў і не ўспрынятая пакуль сэрцам.

**”Навіны”: У адным з пунктаў Дэкларацыі ”Дэмакратычнай платформы” сказана, што рух выступае за ажыцьцяўленьне прынцыпу федэралізму ў адносінах паміж КПБ і КПСС. Гэта таксама зьвязана са сном нацыянальнай ідэі, ці стварэньне незалежнай кампартыі Беларусі па прыкладзе літоўскіх камуністаў у прынцыпе непрымальнае для вашых аднадумцаў?**

**С.П.:** Адносна гэтага пытаньня працягваюцца спрэчкі. У руху не хапае людзей, якія здолелі б паставіць пытаньне аб 'аддзяленьні ад КПСС і настаяць на ім. Многія ўдзельнікі руху чыста псіхалагічна ня могуць аддзяліць сябе ад ”цэнтру”.

**”Навіны”: Якое наогул Вашае стаўленьне да падзеяў у Літве? Ці чакае Беларусь гэткая ж перспектыва?**

**С.П.:** Асабіста я цалкам падтрымліваю рашэньне літоўскага народу, хаця ў руху ёсьць і больш асьцярожныя меркаваньні. Але агульная пазіцыя – непрыняцьце дыктату з боку Масквы.

Што ж датычыцца дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, дык гэта – аб'ектыўны працэс. Ня варта, вядома, выдумляць пэўную схему і сьлепа падтрымліваць яе. Але ня трэба і перашкаджаць працэсу высьпяваньня самастойнай дзяржаўнасьці. Галоўнае – інтарэсы людзей Беларусі. Я ўпэўнены, што ўсё гэта вырашыцца досыць хутка, яшчэ на працягу нашага жыцьця.

**”Навіны”: З сакрэтнай пастановы ЦК КПБ, якая нейкім чынам трапіла ў рукі прыхільнікаў ”Дэмакратычнай платформы” і была зачытаная на канферэнцыі, вынікала, што ў якасьці пятай калоны ў ядро руху,якое фармавалася вакол клуба ”Камуністы за перабудову” на базе Менскага абкаму КПБ, быў ”внедрён” інструктар гэтага ж абкаму Міхаіл Падгайны. Якая ягоная роля зараз?**

**С.П.:** Першапачаткова гэты клуб сапраўды быў створаны пад дахам Менскага абкаму КПБ для сакратароў партарганізацый. Менавіта там мы пазнаёміліся з сакратарам цэхавай партарганізацыі ВА ”Інтэграл” Анатолем Жыватнюком, які ўжо тады меў сувязі з маскоўскімі партклубамі (зараз ён выбраны ў Каардынацыйную раду руху, зьяўляецца адным зь яго безумоўных лідэраў). Сумесна мы прыйшлі да высновы, што чым шукаць іншае памяшканьне і пачынаць з нуля, лепш выкарыстаць гатовую структуру. Паступова вакол клуба аб'ядналася каля 25 аднадумцаў. Роля М.Падгайнага ўжо тады не была для нас сакрэтам, хаця мне асабіста ён здаецца сумленным чалавекам.

**”Навіны”: Чым прынцыпова адрозьніваецца погляд ”Дэмакратычнай платформы” на статус і структуру кампартыі ад традыцыйнага?**

**С.П.:** Мы лічым, што неабходна адмовіцца ад статусу партыі авангарднага тыпу, якая захоўвае манаполію на дзяржаўную ўладу. Патрэбная парламенцкая партыя, якая вядзе барацьбу за ўладу ва ўмовах шматпартыйнай сістэмы. Крыніцай бескантрольнай улады партапарату зьяўляецца аснова арганізацыйнай будовы КПСС – дэмакратычны цэнтралізм. Неабходна адмовіцца ад гэтага прынцыпу. Партыя павінна будавацца на агульнадэмакратычных прынцыпах: шырокая аўтаномія партыйных арганізацыяў, свабода платформаў і групаў, гарантыя правоў меншасьці. У праекце новага Статуту КПСС захаваны традыцыйны падзел функцыяў паміж партыйнымі структурамі: ”пярвічкі” праводзяць палітыку партыі ў жыцьцё; райкамы, гаркамы дапамагаюць ”пярвічкам”; абкамы і ЦК ўдзельнічаюць ў фармаваньні палітыкі. Захоўваецца і тэрытарыяльна–вытворчы прынцып будовы партыі, пры якім КПСС ахоплівае ўсе гаспадарчыя і дзяржаўныя адзінкі. На наш погляд, па жаданьні членаў партыі можа быць выкарыстаны кожны прынцып: тэрытарыяльны, вытворчы, функцыянальны і інш. Партыйныя органы не павінны існаваць у міліцыі, войску, судах і інш. дзяржаўных структурах.

**”Навіны”: Канферэнцыя ”Дэмакратычнай платформы” выказала недавер Бюро ЦК КПБ і запатрабавала яго адстаўкі. Але пакуль што як раз яно зьбіраецца выключаць з партыі ўдзельнікаў руху. Ці магчымае наогул разьвіцьцё ”Дэмакратычнай платформы” ў межах КПБ?**

**С.П.:** Напэўна, раскол усё ж непазьбежны. Партапарат ужо заявіў аб разьмежаваньні з намі. У такой сітуацыі мы павінны запатрабаваць роспуску парткамаў на прадпрыемствах Рэспублікі. Неабходна, каб у гэтым нас падтрымалі ўсе, у тым ліку і БНФ. Масавы рух за роспуск парткамаў можа вельмі рэальна прысьпешыць адстаўку рэспубліканскай партыйнай верхавіны. Што накont карных санкцыяў да прыхільнікаў ”Дэмакратычнай платформы”, дык, напрыклад, 6 красавіка партkам ВА ”Інтэграл” запатрабаваў ад маёй пярвічнай арганізацыі ў 10-дзённы тэрмін разгледзець магчымасьць знаходжаньня С.Папкова ў шэрагах партыі. Я ў сваю чаргу займаюся скліканьнем нечарговай партыйнай канферэнцыі аб'яднаньня, на якой можа быць пастаўленае пытаньне аб роспуску парткаму. Мяркую, што калі ўціск з боку ЦК будзе працягвацца, пачнецца масавая здача партбілетаў, людзі нават ня будуць чакаць вынікаў 28-а зьезду КПСС.

**”Навіны”: А Вы асабіста?**

**С.П.:** Я буду змагацца да канца. Мой шлях – дэмакратызацыя партыі.

**”Навіны”: Вы надалей верыце ў перспектыву камуністычнай ідэі?**

**С.П.:** Тое, што камуністычная ідэя сябе скампраметавала – ні для кога не сакрэт. Толькі ашуканыя і недасьведчаныя людзі могуць верыць у яе. Астатнім трэба знайсьці ў сабе мужнасьць прызнаць крах камунізму. Але ня будзем забывацца, што кампартыя сёньня – адзіная надзеленая рэальнай уладай структура. У яе шэрагах мноства людзей. Яны жывуць побач з намі, гэта таксама нашы людзі. Дык што ж, мы іх выкінем?

**”Навіны”: А калі Вас усё ж выключаць з КПСС. Ганебна. Са скандалам і судзілішчам.**

**С.П.:** Што ж, тады будзе ”Дэмакратычная платформа” без ”КПСС”.

**”Навіны”: І апошняе пытаньне. Куды могуць зьвяртацца людзі, якіх цікавіць дзейнасьць ”Дэмакратычнай платформы”?**

**С.П.:** Штопятніцы клуб ”Камуністы за перабудову” зьбіраецца ў Доме палітасьветы а 18.00. Там можна атрымаць інфармацыю і методыку.

**Запісала І. Л.**

**Пастскрыптум.** Калі гэты матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, мы атрымалі зьвесткі пра тое, што Сяргей Папкоў выключаны з КПСС. Кампанія супраць беларускай ”Дэмакратычнай платформы”, разьвязаная апаратам ЦК КПБ, набірае сілу. Відавочна, іншадумства на Беларусі па-ранейшаму не ў пашане.

Хто наступны?

# ЗА МЕЖАМІ

● НАРВЕГІЯ. У цэнтры ўвагі нарвежскай прэсы ў канцы красавіка была Беларусь у сувязі з чарнобыльскай бядой і візітам у краіну старшыні камітэта БНФ "Дзеці Чарнобыля" Генадзя Грушавога. Газэта "Вэрдэнс ганг" зьмясьціла вялікі фотаздымак нашых дзяцей, што ляжаць доўгімі шэрагамі на шпітальных ложках. Подпіс: "Два тыдні таму гэтых дзяцей з калгасу каля Чарнобыля паклалі ў шпіталь з парушэньнямі органаў страваваньня з-за радыяцыі. Людзі бягуць адтуль сем'ямі, а ўлады будуюць новым дамы, каб прывабіць людзей там жыць". Далей аўтар артыкула П.Эдэгор піша: "Ня менш за 200000 чалавек ўсе яшчэ жывуць на забруджаных тэрыторях, зь якіх даўно ўжо трэба было выехаць. Некалькі мільёнаў жывуць у зонах рызыкі. Найбольш цяжка даводзіцца дзецям, многія пакутуюць ад нязагойваньня ранаў, крывацёкаў з носу ды галаўных боляў. Але найбольш непокоіць рост выпадкаў раку. Да людзей з пацярпелых раёнаў ставяцца, як да хворых на СНІД. Ніхто ня хоча брацца зь імі шлюбам з-за боязі, што народзяцца дзеці з сур'ёзнымі адхіленьнямі.

● Найбуйнешая нарвежская газэта "Афтэнпостэн" прадстаўляе Г.Грушавога як госьця Нарвежскага Хельсінскага камітэту, а таксама Цэнтру тэхналогіі ды чалавечых каштоўнасьцяў пры Універсітэце г.Осла. Побач з картай Вітэрюслянн (Беларусі) А.Хоф паведамляе з прэсканферэнцыі: "Беларускі навуковец ды палітык Г.Грушавы скарыстаў слова "генацыд", характарызуючы стаўленьне ўлады да людзей, якія трапілі пад радыяактыўнае апраменьваньне. Ня тоячыся, ён абвінаваціў кіраўніцтва ў Маскве да на Беларусі ў тым, што яно ахвяравала інтарэсамі пацярпелых людзей дзеля прэстыжу дзяржавы ды перабудовы.

● Газэта "Афтэнпостэн" зьмясьціла таксама вялікі артыкул "Чарнобыль – маўчаньне ды шкода". Ягоны аўтар Э.Станг піша: "Беларусь сёньня – цалкам занядбаная савецкімі ўладамі зона катастрофы пасьля Чарнобыля. Яна стала вялікай лабараторыяй вывучэньня шкоды ад радыяцыі. Шпіталі перапоўненыя. Хаця прадстаўнікі савецкіх уладаў у апошні час пачалі выказваць "заклапочанасьць" ды "шкадаваньне" над становішчам, нічога канкрэтнага яны не прадпрымаюць. Людзі баяцца, пакутуюць пад моцным псіхічным прэсам: яны ня ведаюць, ці радыяактыўныя прадукты, якія яны спажываюць, і тыя месцы, дзе яны жывуць".

● "Мяне вельмі кранулі зацікаўленасьць ды ўвага, зь якімі мяне сустрэлі тут у Осла, – сказаў Г.Грушавы ў інтэрвію газэце "Вэрдэнс ганг". – Калі дзеці змогуць пажыць у Нарвегіі месяц, а потым паўтара ў іншым раёне СССР, яшчэ можна будзе аздаравіць іх". Як сказала сакратар Міністэрства замежных справаў Х.Ёнсан, урад ставіцца пазітыўна да магчымасьці прыезду чарнобыльскіх дзяцей ў Нарвегію. Яны могуць прыехаць сюды летам, магчыма, у канцы жніўня. Ёсьць думка ўладкаваць іх у прыватных дамах. "Я рады такой "народнай дыпламатыі", – сказаў Г.Грушавы. – Вельмі важна, каб дзеці Нарвегіі ды Беларусі лепш ведалі адны адных". Беларускі навуковец сустрэўся таксама ў Стортынгу (парламент Нарвегіі) з Камітэтам па сацыяльных праблемах.

● ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Беларусь згадваецца ў ангельскай прэсе ў сувязі зь літоўскімі падзеямі. "Таймс" слушна разважае, што СССР ніколі ня быў дабраахвотным саюзам. Калі былі анексаваныя балтыйскія краіны, дык гэта ж адбылося з Малдавіяй і тэрыторыямі, што складаюць зараз большую частку Заходняй Беларусі ды Заходняй Украіны.

● Бяспрэчна, што пра Расею ды Польшчу ў сьвеце ведаюць болей, чым пра нас. Тым больш варта пашкадаваць, што хто-небудзь можа даведацца пра беларусаў і па такіх зьвестках у "Таймсе": "Польскія, расейскія ды беларускія рабочыя на заводзе "14 кастрычніка" ў Вільні заявілі, што аднадушна падтрымліваюць савецкія санкцыі і выказалі прэтэнзіі, што ў Літве "ніхто ня пытаў іхняй думкі".

Падрыхтаваў В.БУЙВАЛ.

# Хроніка

**Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"**

## ЗВАРОТ

18-га красавіка па распараджэньні прэзідэнта М.Гарбачова і старшыні Савета Міністраў М.Рыжкова Савецкі Саюз пачаў эканамічную блакаду Літоўскай рэспублікі.

Сойм БНФ лічыць, што прыняцьце рашэньня пра блакаду Літоўскай рэспублікі зьяўляецца найбуйнейшай палітычнай і эканамічнай памылкай прэзідэнта Гарбачова і ўраду СССР.

Гэты антыгуманны імперскі акт накіраваны ня толькі супраць Літвы, але і супраць Беларусі. Цэнтар дамагаецца, каб наша Рэспубліка спыніла пастаўкі Літве і заблакавала чыгуначныя перавозкі. Але невыкананьне дагаворных абавязкаў пацягне адпаведныя непастаўкі зь Літвы, што прывядзе да спыненьня працы на многіх прадпрыемствах, да беспрацоўя, да падрыву эканомікі Беларусі. Савецкі Саюз імкнецца весьці сваю імперскую палітыку супраць Літвы за кошт Беларускай рэспублікі і яе народу, які і без таго пакутуе ад чарнобыльскай радыяцыі. Ажыцьцяўляецца прымітыўная антылітоўская прапаганда, мэта якой – пасеяць недавер і варожасьць паміж народамі.

У сувязі са сказаным Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" зьвяртаецца да працаўнікоў Беларусі, да кіраўнікоў прамысловых і транспартных прадпрыемстваў і ведамстваў, заклікае ўрад Беларусі не спыняць дагаворныя пастаўкі Літве, не перашкаджаць транспартным перавозкам і ня ўдзельнічаць у авантурніцкай антынароднай палітыцы Крамля, накіраванай супраць літоўскага і беларускага народаў.

**Менск, 11 траўня 1990 г. Старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк.**

## РАШЭННЕ СОЙМУ БНФ

**Зважаючы на тое,**

што распачаўся працэс распаду таталітарнай і ўнітарнай дзяржавы СССР;

што кіраўніцтва СССР не зьбіраецца рабіць захадаў дзеля ператварэньня гэтай дзяржавы ў супольнасьць свабодных народаў, пра што сьведчыць прыняцьце антыдэмакратычнага закона пра выхад рэспублік з Саюзу;

што за час, які прамінуў пасьля Устаноўчага зьезду БНФ, вырасла палітычная сьвядомасьць і павялічылася інфармаванасьць грамадзтва Беларусі;

што ў іншых рэспубліках СССР адбыліся і адбываюцца радыкальныя палітычныя зьмены;

што Чарнобыльская трагедыя ва ўмовах таталітарнай дыктатуры і каланіяльнага статусу Беларусі ў СССР паставіла наш народ на мяжу фізічнага зьнішчэньня –

**Сойм БНФ адзначае, што дасягненьне дэмакратыі, суверэнітэту Рэспублікі і выратаваньне нашага народу немагчымае ў складзе СССР.**

Сойм канкрэтызуе праграмныя мэты руху і лічыць, што жыцьцёва важнаю мэтай беларускага народу, а значыць, і галоўнай мэтай руху зараз становіцца:

– дасягненьне незалежнасьці Беларусі і пераход да судружнасьці незалежных дзяржаваў;

– сьцьверджаньне на Беларусі дэмакратычнага рэспубліканскага ладу, пазбаўленага партыйнай манаполіі на ўладу і панаваньня якой бы ні было ідэалогіі;

– адбудова рыначнай эканомікі Рэспублікі ў шчыльнай сувязі з эканомікамі суседніх дзяржаваў;

– адраджэньне беларускай нацыі і культуры, адбудова ў Беларусі грамадзянскай супольнасьці.

Сойм БНФ вырашыў правесьці ў канцы чэрвеня – пачатку ліпеня 1990 г. агульную канферэнцыю Фронту, прысьвечаную абмеркаваньню пытаньня незалежнасьці Беларусі і шляхоў яе здабыцьця, а таксама адносінаў да іншых палітычных сілаў.

Менск, 11 траўня 1990 г.

**Старшыня Сойму БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.**






## АНТЫРАКЕТНАЯ АКЦЫЯ

30 красавіка – 2 траўня Канфедэрацыя Беларускіх Суполак правяла "Вандроўку'90" – акцыю пратэсту супраць ядзернай зброі на Беларусі. Каля паўсотні хлопцаў і дзяўчат зь Менску, Горадні, Ліды, Баранавічаў, Віцебску, Берасьця, Масквы сабраліся пад знакам "Пагоні", толькі меч у руцэ коньніка быў заменены на кветку. "Прыйшоў час кахаць, а не забіваць" – галоўны лозунг акцыі. Жыхары вёсак Гарадзенскай вобласьці: Вусьце, Яцукі, Сялец, Безгалы, Мінойты і вайскоўцы з разьмешчаных на Лідчыне ракетных базаў убачылі, што змагацца за мір можна ня толькі ў Амерыцы, а размаўляць на роднай мове ня толькі ў Расеі. Вайскоўцы ўспрынялі пацыфісцкую акцыю без варожасьці, а прадстаўнікі той базы, ля якой мы правялі мітынг, запрасілі нас на вячэру, сказаўшы, што разьлічвалі на 200 чалавек. Нават арганізатары да апошняга моманту ня ведалі, колькі будзе ўдзельнікаў. Магчыма, гэтая інфармацыя трапіла да вайскоўцаў дзякуючы таму, што за два тыдні да пачатку было зроблена 200 сувенірных медалёў з сымболямі акцыі.

У першы дзень быў аб'яўлены конкурс "Валацуга'90". На жаль, ніводзін з удзельнікаў не атрымаў гэтага пачэснага тытулу, таму ўзьнікла прапанова ўзнагародзіць ім падпалкоўніка МУС, які спадарожнічаў канфедэратам ад першага да апошняга кроку. Відаць, таксама пацыфіст.

Марш міру скончаны, ягоныя ўдзельнікі разьехаліся. Але людзі, якія бачылі нас, зьмяніліся. І тыя афіцэры, што чыталі "Навіны", і той, што папрасіў на памяць бел-чырвона-белы сьцяжок, і той, што на беларускай мове сказаў: "Хлопцы, вам трэба было ісьці не сюды, а да Дома ўраду".

Уладзімер ПАНАДА.

■ У ноч з 13 на 14 траўня ў Вільні згарэў домік Зоські Верас, славутая "лясная хатка". Пажар быў заўважаны толькі тады, калі полымя шуганула высока ўгару і зарава стала відно здалёку. Пакуль былі выкліканы пажарнікі, пакуль яны знайшлі дарогу ў глухім лесе, ратаваць ужо не было чаго . . .

■ 12 траўня ў Менску адбылася чарговая сесія Сойму БНФ. На ёй была канкрэтызаваная палітычная мэта руху – дасягненьне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, і прынятыЗварот да працаўнікоў і ўраду Рэспублікі з заклікам не падтрымліваць блакаду Літвы, распачатую Крамлём.

■ На Беларусі нарадзілася новая арганізацыя – Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў (ЗБС), якая галоўнай сваёй мэтай ставіць абарону студэнцкіх правоў. Першай акцыяй ЗБС стаў збор подпісаў за дэідэалагізацыю навучаньня і адмену курса "грамадзка-марксісцкіх" навук у вышэйшых навучальных установах, за ўвядзеньне ў кожным інстытуце факультатыву "Гісторыя і мастацтва Беларусі".

■ 19–20 траўня ў Менску на геафаку БДУ адбылася канферэнцыя незалежных беларускіх студэнтаў, арганізаваная ЗБС. Залу, дзе яна адбывалася, упрыгожвалі нацыянальныя сьцягі, харугвы студэнцкіх арганізацыяў, гарадзкая геральдыка, а над усім гэтым – словы Вальтэра: "Вашая думка мне глыбока варожая, але за вашае права яе выказваць я гатовы ахвяраваць сваім жыцьцём". Канферэнцыя вызначыла галоўныя кірункі працы ЗБС: эканамічны, "агульна-культурны", нацыянальна-адраджэнскі. Была ўтвораная Каардынацыйная рада, якая абярэ новую рэдкалегію "Студэнцкай думкі" і будзе рыхтаваць восеньскую канферэнцыю студэнтаў. Кантактныя тэл.: 31-21-42, 23-09-70.

■ 26 красавіка каля трох тысяч нараўлянцаў прынялі ўдзел у мітынгу, прысьвечаным чацьвертай гадавіне Чарнобыльскай катастрофы. Воплескамі яны прынялі рэзалюцыю, альтэрнатыўную распрацаванай уладамі. Сярод яе пунктаў – патрабаваньне прыцягнуць да адказнасьці вінаватых у злачынным чатырохгадовым бязьдзеяньні і наўмыснай дэзінфармацыі народу адносна наступстваў ядзернай аварыі.

■ У Рэспубліцы створаная новая партыя – Партыя Незалежнасьці Беларусі (ПНБ). Яе заснавальнікі дамагаюцца сапраўднай палітычнай, эканамічнай і культурнай незалежнасьці Беларусі на прынцыпах народаўладзьдзя. Галоўны кіраўнічы орган ПНБ – Збой, які зьбіраецца не радзей аднаго разу на год. Штаб-кватэра ПНБ знаходзіцца ў Наваполацку.

■ У Менску арганізаваны гурток беларускамоўных каталікоў лацінскага абраду. Увайшлі ў яго пераважна маладыя хлопцы. З дапамогай айца Яна Матусевіча – ксяндза, што вядзе набажэнства на беларускай мове, – яны будуць вывучаць Сьвятое пісаньне, культавыя абрады.

■ У пачатку красавіка група чарнобыльскіх ліквідатараў, што ўжо паўгода безвынікова знаходзяцца ў стацыянары шпіталя НДІ радыяцыйнай медыцыны, распачала галадоўку. Акцыя ішла зь перапынкамі і была спынена толькі ў самым канцы красавіка, калі беларускае кіраўніцтва нарэшце насьмелілася дамагчыся ад Масквы дазволу зьвязаць пастаўлены дыягназ з удзелам у ліквідацыйных работах на Чарнобыльскай АЭС. Дагэтуль пакуты тысячаў людзей сьпісвалі на радыяфобію. Аднак рэальнае становішча ліквідатараў па-ранейшаму застаецца вельмі цяжкое.

■ 7 траўня камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля" атрымаў дабрачынную пасылку – 6 скрыняў зь медыкаментамі. Дэфіцытны груз, дасланы прадстаўнікамі заходнеберлінскай рэлігійнай грамады "Патмас", перададзены ў шпіталі чарнобыльскай зоны.

# НЕЛЕГАЛЬНЫ ФОНД



Ірына Лазоўская

**Памеры Чарнобыльскай бяды патрабуюць дзеяньня. Гэта нарэшце зразумелі і ўлады. Як вынік, пачалі стварацца шматлікія дабрачынныя фонды, некаторыя зь якіх абсалютна беспадстаўна прысвоілі імя камітэта БНФ "Дзеці Чарнобыля". Якія з гэтых фондаў выбраць? Прадстаўнікі якога здолеюць з найбольшай карысьцю для пацярпелых і сумленна выкарыстаць ахвяраваныя грошы? Відаць, гэтыя пытаньні неаднойчы прыходзілі Вам у галаву. У матэрыяле, які Вы прачытаеце на гэтай старонцы, распавядаецца пра дзейнасьць камітэта БНФ "Дзеці Чарнобыля".**

**Калі Вы хочаце дапамагчы Беларусі праз камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля", зьвяртайцеся на адрасы:**

**220082, Беларусь, Менск, пр. Пушкіна, 47–89. Грушавы Генадзь. Тэл. 55-01-13.**
**220119, Беларусь, Менск, вул. Карбышава, 1, корп. 1, кв.56. Арэшкаў Міхась. Тэл. 65–00-78.**

**Камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля" дзякуе за грашовую ды іншую дапамогу ахвярам Чарнобыля**
**– Саюзу кінематаграфістаў БССР,**
**– Цэнтру НТТМ "Матэна",**
**– рэлігійнай грамадзе "Патмас" (Заходні Берлін),**
**– арганізацыі "Маці супраць ядзернай энергетыкі" (ФРГ),**
**– мэры горада Осла.**

Надзвычайную навіну прывёз з Нарвегіі старшыня камітэту БНФ "Дзеці Чарнобыля", народны дэпутат БССР Генадзь Грушавы. 26 красавіка паламент гэтай краіны вырашыў у бліжэйшы час разгледзець пытаньне аб фінансаваньні праграмы дапамогі Беларусі. Такога прэцэдэнту ў сьвеце яшчэ не было. Пакуль што ахвяраваньні з-за мяжы траплялі да нас праз грамадзкія ды іншыя няўрадавыя арганізацыі, а таксама праз прыватных асобаў, як выраз добрай волі людзей з розных куткоў Зямлі. Такая дапамога вельмі важная і ў маральным, і ў матэрыяльным плане, але дамагчыся кардынальнага паляпшэньня можна толькі на ўзроўні дзяржаўных праграмаў выратаваньня ахвяраў Чарнобыля.

На першы погляд гэтае рашэньне нарвежцаў здаецца дзіўным, але да такога кроку іх падштурхнуў не зварот Вярхоўнага Савету БССР да сусьветнай супольнасьці,а прыватны візіт Генадзя Грушавога, які 25–30 красавіка наведаў Осла на запрашэньне грамадзкай арганізацыі "Хельсінскі рух". Менавіта ў якасьці прадстаўніка Беларускага Народнага Фронту Г.Грушавы быў прыняты ў парламенце Нарвегіі, мэрыі горада Осла, Міністэрстве замежных справаў.

– **Нарвежцы таксама ведаюць, што такое радыяцыя,** – распавёў Г.Грушавы для "Навінаў". – **І на іхняй зямлі ёсьць сьмяротныя чарнобыльскія плямы. Таму санітарныя службы вельмі пільна сочаць за радыяцыйнай бясьпекай. Жорсткі радыяцыйны кантроль для іх натуральны, менавіта таму людзі, перад якімі я прамаўляў, так і не зразумелі, як гэта магчыма, што ў зонах, дзе больш за 15 кюры на квадратны кіламетр, дэфіцыт чыстага харчаваньня. Так не бывае, лічаць яны.**

**Мы па-рознаму мысьлім. Але ня толькі Нарвегія, увесь сьвет гатовы дапамагчы Беларусі. Для гэтага мы павінны данесьці інфармацыю пра сапраўдныя памеры трагедыі да ўсіх людзей добрай волі, да ўсіх урадаў, бо на Захадзе амаль нічога ня ведаюць пра пакуты беларускага народу. Красамоўны прыклад – гэтая паездка. Мне ўдалося дамовіцца пра сталую дапамогу медыкаментамі і медпрэпаратамі, пра аздараўленчы адпачынак ў Нарвегіі 100 чарнобыльскіх дзяцей, пра мастацка-дакументальную выставу "Чарнобыль", якая праедзе па ўсёй Скандынавіі. Гісторыя хваробы 3-гадовага магілёўца Сашы Казачэнкі была надрукаваная ва ўсіх нарвежскіх газэтах. Улетку хлопчык паедзе лекавацца ад лейкеміі.**

Няма сумненьня, што калі б актыўныя сумленныя прадстаўнікі беларускага народу накіраваліся ў розныя краіны яшчэ летам 1986, колькі б ужо было зроблена! Не прыйшлося б разбураць так старанна ўзьведзеную ўладамі сьцяну замоўчваньня сапраўдных вынікаў катастрофы. Калі б урад дбаў пра свой народ, яму б не давялося супярэчыць самому сабе і абвяргаць уласную "палітыку" зваротам да сусьвету аб дапамозе. Згублены час, і згублены аўтарытэт. Зараз захады Вярхоўнага Савету Рэспублікі іншаземцы ўспрымаюць скептычна, падазраючы ў іх палітычную дэмагогію.

Камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля" створаны ў красавіку 1986. Ягоныя сябры за год працы здолелі наладзіць кантакты з дзяржаўнымі, грамадзкімі і рэлігійнымі арганізацыямі ФРГ, ГДР, Польшчы, Чэхаславаччыны, Нарвегіі. Ірына Грушавая, якая займаецца пытаньнямі аздараўленьня дзяцей, ужо атрымала запрашэньні й пацьверджаньні на летні адпачынак у гэтых краінах для 1000 дзяцей.

– **Калі я выступала на чарнобыльскім мітынгу, які 26 красавіка адбыўся ва Ўсходнім Бэрліне,** – гаворыць яна, – **у мяне запыталіся, ці не падобная наша дзейнасьць на кроплю вады, якая ўпала на гарачае каменьне. Магчыма. Што такое 1000 месцаў, калі штогадовы санаторны адпачынак патрэбны для 400 000 беларускіх дзяцей? Кропля ў моры пакутаў. Але нашая актыўнасьць, па-першае, прыцягвае ўвагу грамадзкасьці да лёсу Беларусі, а па-другое, выяўляе бязьдзейнасьць уладаў, і яны вымушаныя рэагаваць.**

На жаль, найбольш актыўна ўлады рэагуюць, адмаўляючы камітэту ў праве на існаваньне. Прызнаная ў сьвеце арганізацыя, якая мае нават свае філіі за мяжой (апошні нядаўна адчыніўся ў Японіі), на Беларусі застаецца па-за законам. Як нелегальная структура, яна пазбаўленая магчымасьці адкрываць свае рахункі, мець памяшканьні, транспарт, тэхнічны персанал, сучасныя сродкі сувязі.

Працуючы нелегальна, камітэт тым ня менш здолеў прабіць мур маўчаньня вакол Чарнобыля. Першы чарнобыльскі мітынг ў ліпені 1989, мітынг–шэсьце "Чарнобыльскі шлях", Асамблея народаў "Чарнобыльскі шлях", прэс-канферэнцыі з удзелам беларускіх навукоўцаў, маральная падтрымка жыхароў пацярпелых раёнаў, – усе гэтыя акцыі праведзеныя пры самым непасрэдным удзеле камітэту БНФ "Дзеці Чарнобыля". Не было б гэтага, не было б і Дзяржаўнай праграмы БССР па ліквідацыі наступстваў аварыі.

Акрамя ўдзелу ў палітычных акцыях Народнага Фронту, камітэт аказвае сталую гуманітарную дапамогу жыхарам пацярпелых раёнаў, выступае ў ролі пасярэдніка паміж імі і замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі, ажыцьцяўляе грамадзкі кантроль за разьмеркаваньнем ахвяраванага. Сярод найбольш значных акцыяў – першая аздараўленчая паездка беларускіх дзяцей за мяжу.

– **Абываталю цяжка паверыць, што такое пад сілу нефармальнай арганізацыі** – абураецца Г.Грушавы. – **Тое, што мы даведаліся пра азнаямленчае падарожжа ў Індыю, якое арганізоўваў Фонд Гандзі, было чыстым выпадкам. Спачатку я прасіў хаця б 5 месяцаў, але потым здолеў пераканаць ініцыятараў, што гэта павінен быць не культурніцкі, а адмысловы аздараўленчы тур для дзяцей, якія пацярпелі ад радыяцыі. Тэрмін на падрыхтоўку дакументаў быў вельмі кароткі – 10 дзён, таму Украіна і РСФСР адмовіліся ад удзелу. Вось так дзеці Хойніцкага раёну атрымалі ўсе 25 месцаў.**

**Наогул, галоўны і заўсёды пасьпяховы прынцып нашай дзейнасьці палягае на тым, што мы знаходзім людзей, гатовых дапамагчы Беларусі.**

Камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля" апякуецца Слаўгарадзкім дзіцячым домам. Летась усе ягоныя жыхары разам зь сем'ямі персаналу былі перасеменыя ў Аксакаўшчыну. Двухмесячнае аздараўленьне, якое каштавала 35 000 рублёў, фінансаваў Саюз кінематаграфістаў. Улады тады паабяцалі, што за гэты тэрмін падшукаюць сіратам месца на "чыстай" зямлі. Аднак словы засталіся толькі словамі, і дзіцячы дом вярнулі ў Слаўгарад, які знаходзіцца ў зоне жорсткага кантролю (тут 20 Кюры на км кв.). Відаць, лёс сотні маленькіх беларусаў, якіх ня могуць абараніць бацькі, абыякавы дзяржаве. Камітэт не пакінуў гэтую справу. Будзем спадзявацца, што гуманізм пераможа.

Праз Народны Фронт Малдавіі камітэт здолеў замовіцца з Тыраспальскім эксьпэрыментальным заводам па вырабе дыетычнага дзіцячага харчаваньня пра звышлімітную пастаўку на Беларусь 15 тонаў садавінавых кансерваў. Увесь гэты вітамінны груз бясплатна раздалі дзецям Хойніцкага, Слаўгарадзкага і Веткаўскага раёнаў. Спонсарам акцыі выступіў менскі цэнтар НТТМ "Матэна".

Камітэт таксама па меры магчымасьцяў забясьпечвае аднаразовымі шпрыцамі й дэфіцытнымі медпрэпаратамі шпіталі зоны. Апошні груз – 1000 шпрыцоў з Нарвегіі і 300 з Усходняга Берліну – прывезьлі Генадзь і Ірына Грушавыя.

Здавалася б, няма патрэбы ставіць пытаньне аб карыснасьці працы камітэту. Яна відаць з канкрэтных справаў. І тым ня менш улады як могуць перашкаджаюць дзейнасьці "Дзяцей Чарнобыля", трымаюць камітэт у інфармацыйным і прававым вакуме.

– **Паколькі як арганізацыі нас нібыта няма, давялося шукаць ускосныя шляхі для пэўнай легалізацыі, у прыватнасьці, для адкрыцьця рахунку,** – кажа Генадзь Грушавы. – **І, зразумела, у першую чаргу зьвярнуліся ў Дзіцячы Фонд і Фонд міру. Аднак супрацоўніцтва зь іхнімі чыноўнікамі паказала, што вакол Чарнобыльскай трагедыі распачалася самая ганебная сьпекуляцыя. Колькі разоў мы зьвярталіся ў Фонд міру, каб яны дапамаглі нам атрымаць замежныя пасылкі зь медыкаментамі, ня плоцячы мыта (пошліны), столькі ж Фонд міру прысвойваў іх, нягледзячы на тое, што на кожнай стаяў адрас камітэту і прозьвішчы маіх калегаў.**

**Карыстаючыся неабмежаванымі магчымасьцямі Дзіцячага Фонду, увосень 1989 г. мы здолелі адкрыць пры ім сьпецыяльны рахунак для дзяцей Чарнобыля. За няпоўныя два месяцы людзі ахвяравалі на яго 100 000 рублёў. Аднак калі паўстала пытаньне пра канкрэтную дапамогу, у прыватнасьці, закупку цытрусавых, кіраўніцтва Дзіцячага Фонду сказала "не", маўляў, пачакаем пакуль не набярэцца мільёны 3–4. Але ці могуць чакаць дзеці? Для функцыянераў ад дабрачыннасьці гэта другаснае пытаньне.**

Вам ня дзіўна, што такія заможныя ды шанаваныя ўладай фонды імкнуцца прысвоіць сьціплыя здабыткі фронтаўскага камітэту? Ці то можа гэта плата сістэме за асаблівае становішча?

Каб канчаткова заблытаць людзей, улады прыдумалі новы ход: яны пачалі ствараць камітэты . . . "Дзеці Чарнобыля". Зараз у Рэспубліцы іх ужо тры. Калі гэтак будзе надалей, прычарнобыльскія камбінатары паб'юць рэкорд славутых дзяцей лейтэнанта Шмідта. Генадзь Грушавы лічыць, што асабліва трэба адзначыць апошняе новаўтварэньне "Дзеці Чарнобыля 3", створанае зь ініцыятывы партыйна-дзяржаўнага апарату напярэдадні Чарнобыльскага тэлемарафону. Узначальвае гэтую новую арганізацыю Наталя Машэрава, дачка былога першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава. Кантактавацца з камітэтам БНФ яна адмовілася.

– **Мяркую, гэтая новая структура павінна выканаць ролю нажыўкі для атрыманьня ахвяраваньняў з-за мяжы,** – тлумачыць Ірына Грушавая. – **Паколькі іншаземцы падкрэсьлілі, што будуць мець дачыненьні толькі з грамадзкімі арганізацыямі, быў выраблены гэты дэкаратыўны фасад, каб прыкрыць дзяржаўную манаполію.**

– **Жорсткая ілюзія – думаць, што ў нас можна штосьці рабіць па-за межамі Фронту, па-за межамі адкрытых апазіцыйных структураў,** – лічыць Генадзь Грушавы. – **Усякая не зьвязаная з БНФ дзейнасьць падпадае пад дзяржаўны кантроль.**

"Дзеці Чарнобыля" . . . Раз . . . "Дзеці Чарнобыля" . . . Два . . . "Дзеці Чарнобыля" . . . Тры . . . Хто болей?

Цынізм на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі.

Нарвегія . . . Дабрачыннасьць на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі.

Два сьветы. Два лады жыцьця.

**НАВІНЫ**

Здадзена ў друк 27 траўня 1990 г. Друкарня "LIESMA"

Выданьне Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Нумар падрыхтавалі Валеры Буйвал, Ірына Лазоўская, Алесь Ліпай, Зьміцер Пушкін, Юрась Рагуля, Алесь Суша (рэдактар). Афармленьне Кастуся і Алены Ашчанкаў. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і не вяртае. Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск–113, абанементная скрынка 327. Ахвотныя распаўсюджваць газэту могуць зьвяртацца па тэл. 44-35-61 (Зьміцер).

Заказ № 6, Наклад 30000. Цана 50 кап.